# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

WWW.RUNBEL.LT

29 студзеня 2001 №1 (37) кошт 1 літ


Шаноўныя чытачы! Вось і надыйшло доўгачаканае XXI-ае стагодзьдзе. У мінулым, дваццатым, чалавецтва перажыло, як ніколі раней, мноства падзеяў і пераменаў. Ні адно папярэдняе стагодзьдзе не было такім багатым на выдатных асобаў, на знакавыя падзеі, на крутыя перамены ў жыцьці большасьці насельніцтва, ніводнае стагодзьдзе раней не было такім жорсткім і крывавым: дзьве сусьветныя вайны й незьлічоная колькасьць малых і сярэдніх "канфліктаў", канцэнтрацыя нябачаных дагэтуль багацьцяў у руках невялікіх груповак людзей, раптоўныя "зьмены спосабаў вытворчасьці", каторыя часта вымушалі шмат каго стаць на шлях злачынстваў праз немагчымасьць зарабляць на жыцьцё сумленна, – вось чым было для нас стагодзьдзе дваццатае. Кожная дзяржава крочыла сваім шляхам. Гэта было стагодзьдзе прагрэссу – і ў вадначасьсе з кожным годам шыралася бездань між багацьцем і галечай, дэмакратыяй і дэспатызмам у розных краінах.

Дзе ў гэтым сьпісе стаіць нашая родная Беларусь? На працягу мінулага стагодзьдзя яна двойчы – у 1918-м, і ў 1991-м – абвяшчала сваю незалежнасьць. На жаль, і першым разам і другім гэтая незалежнасьць не была трывалай. Прыкра, але беларусам не хапіла моцы, шанцаваньня, дый, шчыра кажучы, і розуму, каб абараніць і захаваць незалежнасьць сваёй дзяржавы. І, як усе сьвядомыя беларусы, мы верым, што ў новым стагодзьдзі, а можа ўжо й пры нас, Беларусь станецца сапраўды свабоднай, незалежнай і дэмакратычнай. Наш невялікі рэдакцыйны калектыў спадзяецца, што кожны новы нумар газэты будзе сьціплым укладам, маленькай цаглінкай у будынак новай, свабоднай Беларусі – Беларусі XXI стагодьдзя!

Прагрэс нясе нам ня толькі благое. З пачатку новага тысячагодзьдзя газэта пачынае сваё йснаваньне ня толькі ў традыцыйным, папяровым выглядзе, але і ў Інтэрнэце – і зараз яе можа чытаць не тысяча падпішчыкаў, але й людзі ва ўсім сьвеце – там, дзе працягнутае "ўсясветнае павуціньне Інтэрнэту". Завітайце на **http://www.runbel.lt** – і вы пабачыце наш чарговы выпуск у новым, шматкаляровым абліччы. Спадзяемся, наш інтэрнэт-сайт ня будзе простым паўторам газэты - там ёсць магчымасць зьмяшчаць большую колькасьць і аб'ём матар'ялаў – і гэта мы вам абяцаем. У пэрспэктыве – адваротная сувязь, анкеты чытачоў і старонка вашых водгукаў, – і ўсе значна больш апэратыўна, чым дагэтуль. Тым больш, што тут ня будзе праблемаў з мытнямі, канфіскацыямі ды зьнікненьнямі нашых газэтаў і вашых лістоў.

На жаль, у роднай Беларусі й іншых постсавецкіх краінах Інтэрнэт яшчэ многія лічаць экзотыкай, дарагой цацкай – і даступны ён толькі адзінкам з шматлікіх патэнцыяльных нашых чытачоў. Але будзем спадзявацца на лепшае. З новымі стагодзьдзем і тысячагодзьдзем, сябры!


Вія. Здымак Генадзя Жынкова

# Вось якая яна — беларуска XXI стагодзьдзя!

Адносіны псыхічна хворых людзей з грамадзтвам неаднойчы апісваліся ў шмат якіх творах сусьветнай літаратуры, у тым ліку й рускай. Гогаль, Кафка, Чэхаў, той самы Высоцкі, радок зь песьні якога й даў назоў майму допісу, ды шмат хто яшчэ пакінулі мноства гісторыяў пра людзей з парушанай псыхікай. Зьміцер Шчыгельскі — не пісьменьнік. Ён — доктар-псыхіятар (у 1996 г. скончыў Гарадзенскі мэдычны інстытут, а потым працаваў у Магілеўскім псіхіятрычным шпіталі). І напісанае ім — не мастацкі твор, а праўдзівы й дакладны дакумант.

Хвароба кожнага чалавека ёсьць перадусім ягоная ўласная справа. Выстаўляць на ўсеагульны агляд апісаньне ня толькі псыхічнай, але й кожнай іншай немачы звычайнага чалавека, недалікатна й некарэктна. Іншая рэч, калі гаворка йдзе пра кіраўніка дзяржавы. У ва многіх дэмакратычных краінах заканадаўча замацаваныя працэдуры мэдычнага асьведчаньня іхных лідараў. І зусім ня так у краінах таталітарных. Напрыклад, грамадзяне СССР толькі цераз 70 гадоў даведаліся, што іхны «вялікі правадыр» Уладзімір Ульянаў-Ленін у апошнія гады свайго жыцьця быў непаўнавартасным чалавекам і нават ня мог выгаварваць словы. А ці было гэта вынікам перанесенага сіфіліса — мы ня ведаем і дагэтуль. Юры Андропаў амаль год «кіраваў краінай», будучы прыкаваным да бальнічнага ложку, і пра гэта народ мог толькі здагадвацца. Канстаньцін Чарненка за некалькі дзён да сьмерці ўдзельнічаў у тэлевізійным спэктаклі: яму ў бальнічную палату прынесьлі касьцюм з гальштукам і выбарчую вурну - дзеля імітацыі ягонага ўдзелу ў «свабодных і дэмакратычных выбарах». Мы ведаем таксама, колькі гора народам сваіх краінаў і ўсяго сьвету прынесьлі Гітлер і Мусаліні, а між тым усялякі кваліфікаваны псыхіятар бяз цяжкасьці прызнаў-б іх вар'ятамі.

Пытаньне пра псыхічнае здароўе Аляксандра Лукашэнкі неаднойчы ўзьнікала ў мінулыя гады. Аднак і цяпер афіцыйныя ўлады Беларусі адгукнуліся толькі пасьля таго, як заключэньне доктара Шчыгельскага, што спачатку зьявілася ў сетцы Інтэрнэт, а затым на старонках менскай «Нашай свабоды», перадрукавала некалькі маскоўскіх газэтаў. Жахліва, калі псыхіятры бяруць на сябе функцыі пракурораў — і такіх выпадкаў у нашым савецкім мінулым было дастаткова. Але ня менш гідка, калі пракуроры пачынаюць уважаць сябе за лекараў і пачынаюць лячыць ня хворага, а «прычыну»: у дадзеным выпадку адкрыцьцё крымінальнай справы аб «паклёпе на прэзыдэнта» й ёсьць іхныя «тэрапэўтычныя» меры. Аднак магчымыя й «хірургічныя», і таму мужны ўчынак доктара Шчыгельскага й "Нашай свабоды" — адкрыты выклік беларускай карнай машыне.

Зь іншага боку, Шчыгельскі ў адпаведнасьці з сваім прафэсыйным абавязкам і сумленьнем абнародаваў усяго толькі мэдычнае заключэньне. Але як-бы мне хацелася, каб яго прачыталі прадстаўнікі расейскіх уладаў і дэпутаты Дзяржаўнай Думы. Не перашкодзіла-б азнаёміцца зь ім і некаторым дэпутатам Сойму Літоўскай Рэспублікі. Ад Менска да Вільні менш чым 200 км, і хтось там ня супраць зараз вярнуць у Беларусь ядзерную зброю. Нам застаецца спадзявацца, што адлегласьць ад Драздоў да Навінак шмат меншая - усяго пара км. аддзяляюць беларускага кіраўніка ад рэспубліканскай лячэбніцы. Так што хутчэйшага выздараўленьня! Аляксандру Рыгоравічу й, канечне, усёй беларускай дзяржаве! Бо калі хвароба аднаго чалавека вызначае палітыку цэлай краіны, гэта жахліва. Калі салідныя дзяржаўныя мужы абмяркоўваюць трызьненьні аб узнаўленьні ці то Савецкага саюзу, ці то Расейскай імпэрыі, хоць-бы і ў звыродлівым выглядзе нейкай «саюзнай краіны Расеі й Беларусі», — гэта таксама «клініка». Калі арышт буйнога міжнароднага хабарніка й казнакрада ў Нью-Ёрку выклікае чарговы прыпадак неадэкватных паводзінаў «беларускага правадыра», які ва ўсім акаляючым бачыць змову супраць сябе, а грамадзкасьць успрымае гэта як норму, — ужо ёсьць сэнс гаварыць пра «інфэкцыйны», масавы характар некаторых псыхічных захворваньняў. Чым у мінулым стагодзьдзі скончылася падобнае для Нямеччыны й Італіі, агульнавядома.

А паглядзіце на цяперашніх «сяброў» беларускага лідара. Ці-ж Кастра, Кадафі, Чэн Іра й Садама можна назваць псыхічна нармальнымі людзьмі? У зьвязку з гэтым узгадваецца ня толькі ўсходняя прыказка «Скажы, хто твой сябра, і я скажу, хто ты ёсьць сам», але й дзьве казкі: адна распавядае пра цырульніка, каторы галіў падышаха з асьлінымі вушамі. Цырульнік, які пад страхам сьмерці баяўся расказаць праўду на людзях, ня вытрымаў і закрычаў на бязьлюдным беразе ракі: «У падышаха асьліныя вушы!» І дудачкі, выразаныя з росшага там трысьнягу, па ўсёй краіне прасьпявалі праўду пра вушы ўладара. Другая казка — усім вядомая гісторыя Андэрсэна пра голага караля й маленькага хлопчыка, адзінага, хто асьмеліўся сказаць праўду.

Можа, ужо праз некалькі месяцаў грамадзяне Беларусі з сарамлівымі ўсьмешкамі будуць успамінаць, хто быў лідарам іхнай дзяржавы. А можа стацца, і не. Хваробу недастаткова вызначыць, яе неабходна яшчэ вылечыць. Аднак часам пастаўлены дыягназ вельмі важны. Беларускі кіраўнік дабраахвотна лячыцца не зьбіраецца. Але ці захочыць «лячыць сваю ўладу» беларускі народ?

# Бо ўся гісторыя краіны — гісторыя хваробы...

Яўген Ліцьвін зь Вільні

МІКОЛА ЗЭРАЎ

INCOGNITO

Яго страчаю я — [illegible] не штодня! —
Ў студэнцкай пос[illegible], на шумных сэмінарах,
Ў павазе лектарс[illegible] ў круглых акулярах,
Дзе ціша цёмных кніг, дзе зборні й мітусьня.

Радзіўся ён даўно, і гэта не хлусьня!
Жыве ва ўсіх часох, на ўсіх абшарах,
Ды распладзіўся сёньня ў безьліч экзэмплярах,
Як поўзкі парасьнік ад вязавага пня.

Шчэ ўчора мёд тачылі яго губы;
І столькі прыязьні было ў лісьлівай мове!
І скрашваў уціральнічак пастаць.

Наперад бачыць ён гадзіну злое згубы,
Дык-жа ручнік найлепш трымаць напагатове,
Каб рукі ад крыві спа[illegible]ней адмываць.

1934

Здымак Генадзя Жынкова

**На шостай старонцы нумара надрукаваныя санэты выдатнага ўкраінскага паэта Міколы Зэрава**

### Просім дапамагчы

ў разьмяшчэньні ў сем'ях дзяцей, каторыя прыедуць да нас зь Беларусі на 2-3 дні: у лютым – зь Менскага гуманітарнага ліцэю; у сакавіку – з Баранавіцкіх музычнай і мастацкай школаў.

Інфармуйце: **45 91 27; 44 74 32.**

Таварыства беларускай школы ў Літве

### З жыцьця ЗБГА

10 студзеня Згуртаваньне беларускіх грамадзкіх арганізацый у Літве пачало пяты год свайго існаваньня. З гэтай нагоды 12 студзеня адбылося пасед-жаньне Рады Згуртаваньня, на каторым былі заслуханыя справаздачы прэзыдэнта, рэвізыйнай камісыі ды прыняты плян дзейнасьці на бягучы год. З найбольш памятных імпрэзаў Згуртаваньня за мінулы год былі Зьезд ЗБГА, сьвяткаваньне Купальля й Дня Волі, Сьвята беларускай песьні ў Сьвянцянах. Цешыць тое, што Згуртаваньне папоўнілася ў 2000 г. двума новымі сябрамі-арганізацыямі: беларускімі суполкамі з Панявежыса й Кляйпэды.

4-7 сьнежня мне, а таксама беларускам-актывісткам зь Вільні спн. Л. Плыгаўцы, Л. Мілаш, Г. Сівалавай давялося прыняць удзел у Другой сэсіі Міжнароднага кангрэсу беларусістаў пад патранажам ЮНЭСКА. Я прачытаў даклад на тэму «Захаваньне беларускай прысутнасьці ў Літве». З нашых імпрэзаў, заплянаваных на 2001 г., трэба адзначыць такія: традыцыйнае сьвяткаваньне Дня Волі ( у сакавіку); шэраг мерапрыемстваў пад агульнай назвай «Беларусы Літвы - іншым нацыянальным суполкам» (канец траўня – пачатак чэрвеня); чарговы фэст беларускае песьні ў Клайпэдзе.

*Прэзыдэнт ЗБГА* Лявон Мурашка

### Беларускамоўныя мэдыі ў Літве

Апошнім часам, дый заўсёды, магчымасьць карыстацца беларускамоўнымі мэдыямі была вялікім фактарам фармаваньня нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў. Якія магчымасьці мае сёньняшні беларус для атрыманьня інфармацыі на роднай мове? Я не лічу сябе дастаткова кампэтэнтным, каб разглядаць становішча з мэдыямі ў Рэспубліцы Беларусь, ведаю толькі, што для незалежных СМІ яно вельмі цяжкае. А што зараз з мэдыямі на беларускай мове за межамі Беларусі, напрыклад, у нас у Літве? У Літоўскай Рэспубліцы існуе толькі адна беларускамоўная газэта - тая самая, якую Вы зараз трымаеце ў руках, няма больш ніводнага часопіса ці альманаха. Штогод выдаецца некалькі кніг па-беларуску, частка зь іх рыхтуецца сіламі супрацоўнікаў тае самае "Руні". На дзяржаўным радыё штодня па другой праграме гучаць караценькія навіны, на дзярж. тэлевізыі ёсць штотыднёвая праграма "Віленскі сшытак". Дзякуй яе творцам за цікавую перадачу, але яна трансьлюецца ў вельмі нязручны час – удзень, у сераду, што амаль не дае магчымасьці яе глядзець. Некаторым маім знаёмым нават не давялося пабачыць перадачы аб сабе саміх, дык нядзіўна, што большасьць беларусаў Літвы нічога не ведае аб існаваньні "Віленскага сшытка". Ужо каля году зь Вільні трансьлюе свае перадачы радыё "Балтыйскія хвалі". Гэта незалежная радыёстанцыя на сярэдніх хвалях, якая перадае ў эфір ня толькі апрычоныя праграмы, а таксама й беларускія перадачы "Радыё Свабода", перадачы "Радыё Рацыя", "Радыё Палёнія" ды навіны Літоўскага Рэспубліканскага радыё. Шкада толькі, што ейныя перадачы можна слухаць толькі недалёка ад Вільні, нават у Менску для гэтага ўжо патрэбны вельмі моцны радыё-прыймач. З усіх гэтых праграмаў мне найбольш да спадобы перадачы варшаўскага "Радыё Рацыя" – цікавыя й незаўсёды сумныя. А што тычыцца перадач нашае віленскае рэдакцыі - дык у мяне няма сумневу ў нацыянальнай сьвядомасьці й кампэтэнтнасці іхных аўтараў. Але, калі дзень пры дні їх слухаць, узнікае ўражаньне, што акрамя тых нешматлікіх, чыя галасы штодзённа гучаць на "Балтыйскіх Хвалях", у Літве зараз другіх беларусаў не існуе – праграмы робяцца галоўным чынам «пра сябе й для сябе». (Хацелася-б заўважыць, што з пачаткам новага году на "Балтыйскіх Хвалях" становішча трохі зьмянілася – павялічыліся час трансьляцыі й колькасьць перадач, зьявіліся новыя галасы – *заўв. рэд.*). Вось амаль і ўсё, што можа чуць, глядзець і чытаць беларус у Літве. Каля беларускай мяжы і па кабельнай тэлевізіі можна таксама глядзець перадачы Беларускага дзяржаўнага тэлебачаньня – але ў іх з кожным годам, на жаль, застаецца ўсё менш і менш сапраўды беларускага.

Яўгеній Кеппул

### Віленская праграма

радыёстанцыі "Балтыйскія хвалі" робяцца на досыць высокім прафэсыйным узроўні, але... Яна павінная адпавядаць вызвольнаму руху, патрыятычнаму духу. Музыка павінна кранаць сэрцы простых людзей, павінныя гучаць патрыятычныя песьні, народныя, а не шлягеры нейкіх крыклівых беларускіх бардаў ці з замежжа. Неабходна ўвесьці рэлігійную перадачу зь беларускага касьцёлу Сьв. Барталамэя ў Вільні, на што ёсьць згода кс. Яна Шуткевіча. Не лянуйцеся, калі ўзяліся за справу, і хай вам спрыяе Бог!

Юры Гіль

### Сьвяткаваньне Калядаў

адбылося 12 студзеня ў клюбе "Сябрына" напярэдадні Новага году паводля старога стылю. У калядный праграме гучалі калядкі, жарты, выступалі калядоўшчыкі з гаспадаром, казой, цыганом, кабылай ды іншымі пэрсанажамі народнага сьвята. Мастацкая частка была падрыхтаваная, як заззвычай, актыўнымі й бадзёрымі беларускамі Валянцінамі: Кавальчук (музычная частка) ды Івановай (драматычная частка). Наведаў сьвята й Дзед Мароз з падарункамі, і беларускі амбасадар у Літве сп. У. Гаркун. Шкада, што сёлета гэткую цікавую калядную імправізацыю-пастаноўку, падрыхтаваную вучнямі й настаўнікамі Віленскай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны й хорам клюбу "Сябрына", не пабачыла больш шырэйшае кола беларускай віленскай грамадзкасьці.

Павал Саўчанка

### "Стодзёнка",

традыцыйнае для вучняў і настаўнікаў Віленскай сярэдняй школы імя Фр. Скарыны сьвята, адбылося 19 студзеня. Роўна праз 100 дзён 12-кясьнікі пачнуць здаваць іспыты. А на сьвяце вучні й настаўнікі памяняліся ролямі: вучні пераўвасобіліся ў настаўнікаў, а настаўнікі разыгрывалі сцэнкі з вучнёўскага жыцьця. Посьпехаў вам, юнакі і дзяўчаты, у здачы іспытаў і выбары прафэсіі!

Павал Саўчанка





Дзяўчынкі й хлопчыкі зь беларускай школы падчас першага прычашчэньня (камуніі) ў касьцёле Сьв. Барталамэя. *Здымкі настаўніцы Леакадзіі Мілаш.*

### Беларускі каталіцкі касьцёл Сьвятога Барталамэя

што на Зарэччы, хаця й павольна, але набірае сілу й імпэт у справе рэлігійнага беларускага нацыянальнага адраджэньня. Тут кожную нядзелю аб 10.30 адбываюцца набажэнствы ў роднай мове, каторыя праводзіць кс. Ян Шуткевіч. Сам ён родам з Гародні і ўважае сябе за беларуса. Зьмястоўныя й палымяныя ў яго казаньні ў абарону беларускае мовы, культуры, гісторыі. Тымчасам і будынак касьцёла набывае ўсё прыгажэйшы выгляд, хаця й зь вялікімі цяжкасьцямі. Няма яшчэ аргана, а толькі фісгармонія. Не стае 15 тыс. літаў на арган. Цешыць і тое, што ў касьцёле працуюць шчырыя беларусы, як закрэстыян касьцёлу Хведар Грушэўскі зь сям'ёй (жонка й дачка Эляна) ды манашка-сястра Натальля Арлянковіч з Докшыцаў, каторая ў вадначасьсе выкладае рэлігію ў нашай віленскай беларускай школе. Часта прыходзяць у касьцёл дзеткі з гэтай школы ды сьпяваюць беларускія рэлігійныя песьні пад кіраўніцтвам выкладчыцы сьпеву сп. Валянціны Кавальчук.

Юры Гіль

## Мінздраў не папераджвае...

Ажно да сярэдзіны XX ст. адной з найстрашнейшых хваробаў чалавецтва былі сухоты (тубэркулёз). Мільёны людзей паміралі з той прычыны, што у мэдыкаў тады яшчэ не было сапраўдных сродкаў барацьбы з сухотамі. Асабліва шмат людзей гінула пры масавым пагоршаньні ўмоваў жыцьця: у турмах і кацлягерах, у эвакуацыі й раёнах баявых дзеяньняў. Пасьля адкрыцьця новых высокаэфэктоўных лекаў у 50-ыя гг. крывая захворваньня сухотамі пачала рэзка зьніжацца. Загаварылі нават і пра пэрспэктыву цалкавітай перамогі над хваробай, асабліва ў высокаразьвітых краінах.

Аднак напрыканцы 80-ых захворваемасьць сухотамі зноў рэзка ўзрасла ва ўсіх краінах. Зьвязанае гэта было з тым, што існуючыя штаммы мікраарганізмаў «прыстасаваліся» да сродкаў, што выкарыстоўваюцца супраць іх, а новых адкрыта не было. Спатрэбіўся перагляд традыцыйных мэтадаў лячэньня — цяпер для пасьпяховага курса тэрапіі неабходна прызначаць не адзін, ня два антыбіётыкі, а тры-чатыры, часам і большую колькасьць моцнадзеючых прэпаратаў адначасна. Кошт лячэньня вырас, а эфэктоўнасьць ягоная зьменшылася. Больш за тры мільёны людзей штогод памірае ад сухотаў ва усім сьвеце, а два мільярда жыхароў зямлі зьяўляюцца носьбітамі мікробаў туберкулёзу.

У гэтых умовах шмат у якіх краінах сьвету прынятыя фэдэральныя сыстэмы барацьбы з новай небясьпекай. У Літве-ж колькасьць тубэркулёзных шпіталяў і «ложка-мейсцаў» у іх штогод зьменшваецца. Закрытыя ўсе тубэркулёзныя санаторыі, прызнаныя мэдычным начальствам неэфэктоўнымі. Зь пяці мэдычных установаў Коўні, каторыя даўней займаліся сухотнікамі, засталося адно — у Рамайнах. Прадугледжанае закрыцьцё трох віленскіх лякарняў з чатырох.

У чым-жа прычына такога стаўленьня да сухотаў у Літве? Галоўная фтызыятарка краіны Эдыта Давідавічэне сцьвярджае, што ў апошнія тры гады колькасьць тых, хто захварэў на сухоты, зьменшылася. На падставе чаго была зробленая гэткая выснова? Успомнім, што ў былыя, савецкія, гады ўсе працаўнікі буйных прадпрыемстваў у абавязковым парадку праходзілі флюраграфічнае абсьледаваньне. Цяпер большасьць прадпрыемстваў зачыненае, людзі сядзяць ў Гарунай (рэчавы рынак - *заўв. рэд.*), стаяць у безнадзейнай чарзе на Біржы працы ды займаюцца рознымі "халтурамі". Штосьці я ня чуў аб прафілактычных мэдычных аглядах гарунайскіх і падобных да іх работнікаў. Выглядае так, што ў літоўскіх мэдыкаў існуе свая, зручная ім статыстыка... Скажы шчыра, чытач, калі ты апошнім разам быў у доктара? Ці рабіў флюраграму або рэнтген грудной клеткі?

Апошнім часам над усімі намі навісла новая небясьпека. У краіне цяпер больш за 500 хворых, у каторых выяўленыя "ўстойлівыя штамы", г. зн. такія бактэрыі сухотаў, на якія ня ўзьдзейнічаюць традыцыйныя сродкі. Іхняе зьяўленьне ёсьць перадусім вынік неэфэктоўнага лячэньня. У той самы час у Літве дагэтуль існуе практыка, асуджаная ў бальшыні разьвітых краінаў, калі дзецям ды іншым сваякам хворага з мэтай прафіляктыкі прызначаюць адзін ці два традыцыйныя супрацьсухотныя лекі. Многія мэдыкі ўважаюць гэткі мэтад злачынным — бактэрыі вокамгненна прыстасоўваюцца да гэтых прэпаратаў, узьнікаюць новыя цяжкія формы хваробы.

Няпраўда, што хворых з "устойлівымі штамамі" немагчыма вылечыць. Проста іхнае лячэньне каштуе дорага. Вельмі дорага. У літоўскай мэдыцыны проста няма сродкаў, каб вырataваць гэтых 500 чалавек. Яны асуджаныя на сьмерць. І ці толькі гэтыя 500? Яны-ж знаходзяцца сярод нас. ВІЧ-інфэкцыя, "чума XX і XXI ст. ст." перадаецца цераз брудныя шпрыцы й пры палавым кантакце. Для сухотніка гэтага ня трэба — дастаткова аднаму з гэтых 500, каторыя маюць "адкрытую форму", "чыхнуць" у краме, ці ў тралейбусе, і кожны з прысутных атрымае шанец увайсьці ў іхні лік. Незразумела, што нашае мэдычнае начальства зьбіраецца рабіць з хворымі, якія ухіляюцца ад лячэння? Раней імі займалася міліцыя. Зараз ніякага "прымусовага" лячэньня ў Літве няма. Вось і ходзяць яны сярод нас. А начальнікі намерваюцца зачыніць лякарні на Антокалі, дзе зямля каштуе даражэй, чым у іншых раёнах. І рапартуюць пра зьніжэньне захворваемасьці, хоць, згодна некаторым дадзеным, у ва многіх раёнах Літвы на 100 тыс. жыхароў прыпадае больш за 100 хворых на сухоты. А гэта, панове, называецца эпідэміяй туберкулёзу!

Яўген Ліцьвін

Стэфан Бэргман

# Пра маё знаёмства з Кузьмой Чорным

*Стэфан Бэргман (сапр. прозьв. Шымон Эпштэйн) нарадзіўся 9.03.1904 г. у Вільні. З 1919 па 1980 г. удзельнік камуністычнага руху ў Заходняй Беларусі, БССР, ПНР. Быў адным з арганізатараў і першых дзеячоў віленскага камсамолу; доўгія гады прапрацаваў у шэрагах КПЗБ; быў удзельнікам апошняга 6-га Зьезду кампартыі Польшчы. 5 гадоў адседзеў у польскіх турмах, 5 гадоў — у савецкіх турмах і лягерох (зь іх 2 гады на Калыме). У траўні 1945 г. вярнуўся з СССР у Варшаву і ўступіў у Польскую рабочую партыю (відазьмененая кампартыя). Працаваў у выдавецтве "Ксёнжка і Ведза" рэдактарам-выдаўцом чарговых твораў Леніна, Маркса, Энгельса й Сталіна, многія з каторых сам перакладаў. З 1966 г. на пэнсіі, займаўся публіцыстыкай, перакладамі, рэдагаваньнем. Напісаў абшырны нарыс пра дзейнасьць Бунду й пра гісторыю ўзьнікненьня Расейскай камуністычнай партыі. Пераклаў шмат твораў з жыдоўскай мовы. Памёр 14.10.2000 г.*

Ад часу маёй сустрэчы з Кузьмой Чорным прайшло 44 гады, і, зразумела, што многае з маіх гутарак зь ім сьцёрлася ў памяці й нават абсалютна выпарылася. Я ніколі ня меў намеру пра запіс сваіх уражаньняў аб тым кароткачасовым знаёмстве. І вось паспрабую напісаць пра ўсё, што захавалася ў памяці. Усьведамляю аднак, што напісанае мною будзе ўрыўкавым, ускрай недастатковым.

Сустрэча адбылася ў незвычайных умовах. Мяне прывезьлі з калымскага лягеру ў менскую турму ў ліпені 1938 г. на "дасьледаваньне", і я некалькі месяцаў (прыкладна да сьнежня) праседзеў у г. зв. "азіяцкім корпусе", дзе, як і ўсе, хто там пабываў, шмат чаго зазнаў. Пасьля гэтага мяне перавялі ў асноўны турэмны корпус. У камэры мы сядзелі ўтрох. Напрыканцы студзеня ці то напачатку лютага 39 г. да нас прывялі чацьвертага — Мікалая Карлавіча Рама968ўскага. Як зазвычай у турэмных умовах, асабліва тадышніх, прайшло некалькі дзён да таго, як мы пачалі зь ім вольна размаўляць. Мы — значыць я зь ім. Супольных размоваў было няшмат, прозьвішча Раманоўскі нічога мне не казала. Хоць я ўжо многа гадоў цікавіўся беларускай літаратурай і, наогул, культурай, маё знаёмства зь ёй было даволі абмяжаванае, чытаў я пераважна тое, што можна было здабыць у Заходняй Беларусі, дый тое галоўным чынам пад час адсідкі на Лукішках і на Стэфанаўскай. Пра тое, што Раманоўскі гэта Кузьма Чорны, я даведаўся ад яго самаго.

Тут я павінны зрабіць невялічкі водступ - растлумачыць, чаму я гэтак хутка сыйшоўся зь ім. Пытаньні беларускай культуры, беларускіх грамадзкіх рухаў былі мне блізкія. Седзячы ў польскіх турмах з многімі беларускімі дзеячамі й асабіста зблізіўшыся зь некаторымі зь іх (асабліва з Арсенам Канчэўскім і Пётрам Клінцэвічам), - я даволі добра авалодаў беларускай мовай, быў адным з рэдактараў турэмнага часопісу "Лукіскі сьцяг". Пасьля зволненьня ў 1928 г. у працэсе дзейнасьці ў КПЗБ яшчэ глыбей пазнаёміўся зь беларускім вызвольным рухам, з многімі ягонымі ўдзельнікамі. Быў заснавальнікам і часам сурэдактарам шмат якіх нелегальных беларускіх выданьняў. У прыватнасьці (гэта мала каму вядома) часопіс "Летапіс ТБШ", які выдаваўся Шырмам і Стэцкевічам, быў створаны з маёй ініцыятывы й пры маім непасрэдным удзеле. Тое самае тычыцца "Беларускай газэты" (Вільня, 1933-34 гг.) і сатырычнага часопісу "Асва" (Вільня, 1934 г.).

Мікалай Карлавіч, наогул, даволі маўклівы - такое ў мяне, прынамсі, склалася ўражаньне - аказаўся кампанейскім сукамэрнікам. З той прычыны, што кнігаў, а тым больш газэтаў, нам не давалі, ён пачаў нам распавядаць розныя гісторыі, пераказваючы цэлыя кнігі. Гэта было асабліва важна для нас у прысьмерках, калі бывала асабліва тужліва. Ягоныя аповяды дапамагалі бавіць час. Памятаю, як напрацягу некалькіх дзён ён пераказваў нам прыгодніцкі раман з жыцьця карсараў. А пасьля, як скончыў распавядаць, цішком прызнаўся мне, што такога рамана няма, што ён яго прыдумаў "на хаду" падчас роспавяду. Мікалай Карлавіч пазнаёміў нас са зьместам некаторых сваіх твораў, а аповесьць "Люба Лук'янская" пераказаў амаль цалкам.

Ён адзіны з нашай чацьвёркі атрымоўваў перадачы, меў цукар і дзяліўся з намі. Даведаўшыся, што я ёсьць "зарубежник", былы работнік КПЗБ, пісьменьнік прагна распытваўся ў мяне пра жыцьцё ў Заходняй Беларусі, а калі мы зблізіліся, шмат распавядаў пра сваю творчасьць. "Усё створанае мною дагэтуль — гэта толькі падыход, падрыхтоўка да галоўнай тэмы, галоўнай задачы: напісаць гісторыю беларускага народу ў цэлым цыклі раманаў". Гэтае ягонае выказваньне памятаю амаль даслоўна. Сваім узорам лічыў Бальзака. Здаецца, ён казаў пра восем раманаў. У мяне тады склалася ўражаньне, што агульны плян гэтага цыклю ў яго ўжо распрацаваны — калі не на паперы, дык у галаве. Адзін з тых раманаў, зь ягоных словаў, павінен быў прысьвечаны ролі ўніяцкай царквы ў апалячваньні беларусаў.

У нашых размовах шмат мейсца займала пытаньне пра лёс і пэрспэктывы разьвіцьця бел. літаратуры ў БССР. З глыбокім сумам і горыччу М. К. казаў пра няўхільнае выцісьненьне бел. мовы са школаў, пра нарастаючую русыфікацыю беларускай моладзі, якая, паводле ягоных словаў, усё менш і менш цікавіцца беларускай літаратурай, менш чытае бел. кніжак. Аднойчы нават сказаў: "Ці не давядзецца мне на старасьці пісаць свае кнігі парасейску?" Даслоўна гэтага не памятаю, але сэнс перадаю дакладна.

Зь ягоных роспытаў вынікала, што ён мала быў дасьведчаны пра бел. кнігі, што выдаваліся ў замежжы. У прыватнасьці, мяне ўразіла, што ён ня толькі ня меў, але нават і ня ведаў пра выдадзены Вацлавам Ластоўскім у 20-ых гг. у Коўні "Расейска-крыўскі слоўнік".

Шмат мейсца ў нашых размовах, зразумела, займала пытаньне аб прычынах масавых арыштаў. М. К. асабліва зьдзіўляўся, як гэта яго ды іншых бел. пісьменьнікаў можна абвінаваціць у "нацдэмаўшчыне", у антысавецкай дзейнасьці. Неяк, вярнуўшыся з допыту, ён быў асабліва прыгнечаны й доўга маўчаў. Толькі назаўтра ён мне цішком сказаў, што ў калідоры, які вёў да дзьвярэй сьледчага, бачыў Бядулю, каторы стаяў тварам да мура. Верагодна, канваіры не пасьпелі адвесьці яго пры набліжэньні М. К.

Пасьля аднаго з допытаў мы даволі грунтоўна гутарылі пра "Нашу Ніву". Сьледчы яму ўтлумачваў, што "Наша Ніва" была калыскаю беларускага нацыяналізму й контррэвалюцыі. "Вось гэтага, — казаў М. К., — я ніяк не магу ўспрыняць. Усё, што я дагэтуль ведаў пра "Нашу Ніву", супярэчыць гэтаму. Заслугі "Нашай Нівы" для беларускага адраджэньня, для разьвіцьця беларускай літаратуры й культуры нельга пераацаніць. Наогул, бяз "Нашай Нівы" няма гісторыі беларускай літаратуры й нельга зьмешваць пазьнейшай палітычнай дзейнасьці некаторых асобаў зь іхнай ролькю ў "Нашай Ніве"!" Прыкладна ў такіх словах перадаў ён мне свой адаз сьледчаму.

За ўвесь час нашага сумеснага прабываньня ў камэры М. К. выклікалі да сьледчага два ці тры разы. Апошнім разам ён вярнуўся ў гуморы й сказаў, што, судзячы з таго, як праходзіў допыт, яго павінныя неўзабаве вызваліць. І адразу-ж пачаў дамаўляцца пра дапамогу мне й маёй сям'і.

Тут я павінны зазначыць, што мы шмат распавядалі адзін аднаму пра нашыя сем'і. Ён мне падрабязна распавёў пра сваё сямейнае жыцьцё, жонку й адзіную дачку. Даведаўшыся, што мая жонка тады таксама знаходзілася ў менскай турме, брат і дзьве сястры арыштаваныя й што мая маці засталася адна з маёй маленькай 4-гадовай дачкою, - М. К. сказаў, што ў выпадку свайго вызваленьня пастараецца дапамагчы маёй маці. Апроч таго, дасьць мне знак пра сваё вызваленьне прысылкаю грашовага пераводу.

Неўзабаве пасьля гэтай размовы яго забралі з камэры, а прыкладна цераз месяц я атрымаў перавод на 50 рублёў. Такім чынам я дакладна даведаўся, што М. К. ужо дома. Прысылка грошай у турму чалавеку, асуджанаму г. зв. "Особым Совещанием", чалавеку, якому прыпісалі ўсе сьмяротныя грахі, шпіянаж, антысавецкую дзейнасьць і пад., - было зь ягонага боку ня толькі выказваньнем даверу да мяне, але й, безумоўна, актам сур'ёзнай грамадзянскай мужнасьці. Ня меншай мужнасьцю зь ягонага боку было тое, што пасьля майго вызваленьня з турмы (без рэабілітацыі) ў лістападзе 1940 г., ён вельмі сардэчна прыняў мяне ў сваім доме.

*Варшава, 22.9.1983.*

# Там, дзе мяне няма...

*Працяг. Пачатак у № 36*

## 2. Жыцьцё ў Чыгуначнай Калёніі

У Чыгуначнай Калёніі жыло некалькі беларускіх сем'яў: сэнатара Вячаслава Багдановіча, пасла Ф. Ярэміча, мы, а ў Ніжняй Калёніі – сям'я Радаслава Астроўскага. Р. Астроўскі быў контравэрсыйнай постацьцю: дырэктар ВБГ, здольны пэдагог-матэматык і палітычна няясная фігура. Большасьць беларусаў Вільні ставілася да яго зь недаверам. Хадзілі чуткі, што на пабудову дому ў Калёніі Астроўскі выкарыстаў грамадзкія грошы. Марыян Пецюкевіч стараецца ў сваёй кніжцы ўспамінаў "У пошуках зачараваных скарбаў" "адбяліць" Астроўскага, маўляў, шмат хто тады будаваў сабе дамы. Аднак чамусь пра нікога больш не гаварылі, ня ставілі пад сумнеў іхнюю чыннасьць, - толькі пра Астроўскага.

Тонік сябраваў са старэйшым сынам сэнатара Багдановіча Глебам. Узімку яны запрагалі ў санкі нашага сабаку й сабаку Багдановічаў і езьдзілі па Калёніі, бегалі на лыжах, вучылі й мяне хадзіць на лыжах. Улетку езьдзілі на роварах у далёкія экскурсіі на Браслаўшчыну, на возера Нарач. Глеб таксама вучыўся ў ВБГ, а пасьля закончыў мэдыцыну на Віленскім унівэрсытэце. Іхнае сяброўства перарывала і вайну, і лягеры. Пасьля павароту зь лягероў Глеб Багдановіч працаваў у Рудзінску лекарам, часам прыяжджаў у Вільню.

Маімі сябрамі былі дзеці суседзяў Янка й Рысяк Бальцэвічы, Ядзя Ш. Зь беларускімі дзецьмі я сустракалася рэдка, толькі на імпрэзах, якія ладзіліся ў ВБГ ці ў іншых арганізацыях.

У 1933 г. я пайшла ў школу. Мне было шэсьць гадоў і мяне не хацелі прыймаць. Аднак я ўпёрлася, усе мае сябры хадзілі ў школу, чаму я маю сядзець дома? Вучыцелька пагаварыла з бацькамі, сказала: "Няхай ходзіць, адзнакаў ставіць ёй ня будзем, можа ёй разахвоціцца". Але я акуратна хадзіла ў школу і ў канцы навучальнага году мяне перавялі ў другую клясу. Школа, ясна, была польская, вучыліся ў ёй дзеці з самой Калёніі і з Гураў. Драўляны будынак школы стаяў пад лесам, аднак нашая кляса вучылася ў Доме Культуры. Тут была невялікая заля, дзе адбываліся сходы Ўправы Калёніі ды ладзіліся канцэрты ці спэктаклі. Была й сцэна, што мела ад залі шырокія дзьверы, а пад стольлю вакенцы. У гэтай залі мы й вучыліся. У памяці асталіся толькі лекцыі рэлігіі, і тое не таму, што былі цікавыя, а наадварот. Ксёндз, які вучыў рэлігіі, быў вельмі нэрвовы, лупцаваў усіх лінэйкай па руках, па сьпіне, дзе патрапіць. Хлапцоў, каторыя асабліва шумелі, выкідваў з клясы, а тыя беглі на сцэну, узлазілі на драбіну й рабілі розныя грымасы. Неяк ксёндз надарваў аднаму хлапцу вуха, бацькі збунтаваліся й ксяндза некуды выслалі.

У 30-ыя гг. пачалася фашызацыя Польшчы. Беларускія арганізацыі закрывалі адну за адной, газэты былі пад строгай цэнзурай, – даўжэй трымаліся "хадэцкія" газэты й часопісы. У беларусаў часта здараліся перартрусы, шукалі антыпольскай "вывротовэй" літаратуры. Насупроць нашага дому жыў паліцыянт Мацееўскі. Дык ён часта папярэджваў бацькоў, што мае быць пeратрус. І калі прыходзіла паліцыя, у нас нічога не знаходзілі. Праўда, аднаго разу ўзялі брашурку пра гадоўлю парсюкоў, бо была выдадзеная ў Менску.

У Калёнію да бацькоў часта прыяжджалі М. Шыла, Паўлюкоўскі, П. Сергіевіч, беларускія студэнты зь Віленскага ўнівэрсытэту. З адным зь іх, мэдыкам Вітаўтам Тумашам, мама пісала цыкль лекцыяў аб зьбіраньні й выкарыстаньні зёлак. Калі мы з мамай бывалі ў горадзе, дык заходзілі ў "Беларускі Банк", што месьціўся на вуліцы Каранеўскай (цяпер Б. Радвілайцес) у панадворку дому, дзе памёр Ул. Сыракомля. У банку працавала Марыя Паўловіч, жонка Сяргея Паўловіча, зь якой мама сябравала. Заходзілі мы і ў беларускую кнігарню да Ст. Станкевіча ("Кнігара"), і ў кнігарню на рагу Вострабрамскай і Гетманскай, загадчыкам якой быў П. Мятла, – там часта спатыкаліся беларусы.

Матар'яльна нам жылося ўсё горш. Бацька быў беспрацоўны, браўся за ўсякую работу, нейкі час меў нават спажывецкую краму ў будынку на рагу Завальнай і Вялікай Пагулянкі (Пілімо – Басанавічаўс), аднак хутка збанкрутаваў, бо ня меў здольнасьцяў на гешэфту (сягоньня кажуць "бізнэс"). Выданьне "Борці" таксама ніякіх даходаў не давала. Ледзь-ледзь удавалася сабраць грошы на нумар. Мама гадавала кветкі на насеньне, якое ахвотна куплялі два магазыны: Я. Крыўкі й Вільнішэўскага, абодва на Завальнай. А яшчэ зьбіралі зёлкі, такія зь іх, як румянак, дзеванну й мяту гадавалі на гародзе. Зёлкі скупляў уласьнік адзінай на той час аптэкі зь зёлкамі Турбіла. Аптэка месьцілася на Людвісарскай (Жэгіклос). Дагэтуль помню непаўторны пах зёлак у той аптэцы. Бацькі цяпер радзей езьдзілі на беларускія імпрэзы, мама саромелася, што яна горш апранутая, як М. Паўловіч, Астроўская ці іншыя "дамы".

Галіна Войцік



Галіна Войцік і Антон Шантыр. 1932 г.



Дом Войцікаў у Чыгуначнай Калёніі. Перад домам: Зоська Верас і Галіна Войцік з сынам Яраславам. 1959 г.

# Чарнобыль — сусьветная бяда!

## Гутарка з старшынём праўленьня фонду "Дзецям Чарнобыля" сп. Г. Грушавым

*Падчас наведаньня нядаўніх урачыстасьцяў з нагоды 10-гадовай дзейнасьці Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю ў Менску сакратар газэты сп. П. Саўчанка асабіста пазнаёміўся зь вядомым у сьвеце беларускім грамадзкім дзеячом, кіраўніком фонду "Дзецям Чарнобыля" сп. Генадзем Грушавым, і ўзяў у яго інтэрвію для нашае газэты.*

Як узьнік Фонд? Як пачыналася яго праца?

Чарнобыльская катастрофа паставіла на мяжу існаваньня увесь, бадай, беларускі народ. Ужо сёньня мы маем рэгіёны, дзе няма ніводнага здаровага дзіцяці. Дык вось, у 1989 г. з мэтай дапамагчы беларускім дзецям і быў створаны фонд Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля". Да ягонай арганізацыі спрычыніліся й тадышнія бел. улады, і БНФ, шмат якія грамадзкія арганізацыі ды інш. Намі распрацавана шмат праграмаў: праграма дапамогі дзецям Чарнобыля, дзецям-інвалідам, дзецям з прыроджанымі хваробамі, чарнобыльскім перасяленцам і сацыяльна неабароненым сем'ям. Пералік зробленага Фондам заняў-бы шмат часу. Таму пра самае галоўнае. На сёньняшні дзень, дзякуючы нашым намаганьням, змаглі аздаравіцца й прайсьці курс рэабілітацыйнага лячэньня 140 тыс. дзяцей у 24 краінах сьвету. Іх на дабрачынных умовах прыймалі ў сябе грамадзяне замежжа. Было крыху дапамогі й з боку беларускага грамадзтва. Сёлета мы плянуем аздаравіць да 8 тысячаў дзяцей і падлеткаў (з 8 да 14 гадоў).

Ці зьмяншаецца колькасьць тых, хто патрабуе аздараўленьня?

На вялікі жаль, не. Цяпер вельмі шмат такіх, хто ў свойчас атрымаў г. зв. "малую дозу радыяцыі". Вынік — аслабленьне й разбурэньне імуннай сыстэмы. У нас на ўліку да 500 тыс. чалавек з захворваньнем шчытавіднай залозы! Колькасьць хворых павялічваецца й праз ужываньне забруджанай радыёнуклеідамі ежы (спажываньне выклікае захворваньні страўніка, скуры, нэрвовай сыстэмы).

Якімі прынцыпамі Вы кіруецеся, калі адбіраеце дзяцей на лячэньне? Кажуць, што сярод іх шмат абсалютна здаровых дзяцей з сямьяў чыноўнікаў...

Усё гэта плёткі. У нас гэта выключана. Мы накіроўваем на аздараўленьне сапраўды хворых. Для накіраваньня патрэбная даведка аб стане здароўя, складзе сям'і, агульным заробку. Дакументы разглядаюцца камісіяй, якая й фармуе групы. Аднак ёсьць і такія сем'і, у якіх наплюваць на ўласных дзяцей (алкаголікі й пад.), тады мы самі праяўляем ініцыятыву, зьбіраем дакументы, адпраўляем дзяцей на аздараўленьне за мяжу.

Як Вам удаецца кантраляваць сытуацыю з аздараўленьнем на тэрыторыі ўсёй Беларусі?

Мы стварылі ініцыятыўныя групы, якія дзейнічаюць у 72-х раёнах рэспублікі. Яны й зьбіраюць інфармацыю, праводзяць сходы, дапамагаюць пацярпелым сем'ям вопраткай, раней дапамагалі прадуктамі харчаваньня...

Чаму "раней"?

Ходзіць пра тое, што мы ў свойчас два гады ўваходзілі ў склад БНФ, а з 1991 г. сталіся самастойнай арганізацыяй. Напачатку нам дапамагалі самыя розныя дзяржаўныя структуры. Аднак сягоньня мы адчуваем моцны ціск з боку ўладаў. У 1997-98 гг. я быў змушаны правесьці 12 месяцаў на эміграцыі. Тым часам у Беларусі быў закрыты Фонд Сораса ды інш. дабрачынныя структуры, хацелі скасаваць і наш Фонд, але гэтага не дазволілі зрабіць міжнародныя арганізацыі (была прыйнятая адумысловая рэзалюцыя Савету Эўропы, былі пададзеныя два запыты сп. Кіпкеля (ФРГ) міністру замежных справаў Антановічу ды інш.). Нас не зьліквідавалі, але ўскладнілі ўмовы атрыманьня нашым Фондам гуманітарнае дапамогі, не дазваляюць атрымоўваць лекі, прадукты харчаваньня. Усё новыя абмяжаваньні ўводзяцца, лічы, кожны дзень. Калі мы, напрыклад, паспрабавалі супрацоўнічаць зь Менскім дзіцячым аздараўленчым цэнтрам (зьняць у арэнду частку памешканьняў Цэнтру для аздараўленьня дзяцей) і пералічылі на яго рахунак вялікія грошы, дык праз два дні ад чыноўнікаў прыйшоў адказ з адмовай. І справа тут ня ў грошах, а ў агульнай палітыцы цяперашніх бел. уладаў: палітыку яны ставяць вышэй за клопат пра дзяцей.



Т. Жукава (в. Новая Ельня Краснапольскага раёну): "Тут карані мае. Куды ад іх мне адрывацца?". *Ілюстрацыя да зборніка вершаў Анатоля Зэкава "Аварыя сумленьня".*

Якія яшчэ кірункі працы ў Фонда апрача аздараўленьня?

Працуем з моладзьдзю. Арганізавалі больш за 30 маладзёвых цэнтраў. Удзельнікі цэнтраў вывучаюць беларускую мову, гісторыю Бацькаўшчыны, камунікацыю, замежныя мовы. Дарэчы, самая актыўная ў нашых цэнтрах якраз тая моладзь, што аздараўлялася ў замежжы. У 1997 г. у Малінаўцы пад Менскам, дзе пражывае 11 тыс. чарнобыльскіх перасяленцаў, мы адкрылі сацыяльны маладзёвы цэнтар. У ім каля 1000 дзяцей бясплатна займаецца ў розных гуртках, ім аказваецца разнастайная дапамога, і матар'яльная, і лячэбная. Жыхары Малінаўкі, бачачы нашую рэальную дзейнасьць, сабралі 15 тыс. подпісаў за вылучэньне маёй кандыдатуры ў палату прадстаўнікоў падчас апошняй перадвыбарчай кампаніі. Гэтага вельмі спалохаліся ўрадавыя структуры. Цяпер яны робяць усё, каб закрыць цэнтар у Малінаўцы.

Вас у першы чарод цікавяць дзеці Чарнобыля... А як Вы ставіцеся да астатніх?

Сапраўды, 80 адсоткаў дзяцей, которыя патрабуюць лячэньня й рэабілітацыі, з Чарнобыльскай зоны (Магілеўская, Гомельская, Берасьцейская вобласьці). Аднак мы апякуемся й дзецьмі перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны, которыя нарадзіліся ў адносна бясьпечнай зоне (гэта прыблізна яшчэ 15 адсоткаў), астатніх 5 адсоткаў — гэта дзеці, которыя пакутуюць ад іншых хваробаў, — такіх таксама нямала ў Беларусі, і гэта страшна.

Ці баіцеся, што Ваш Фонд усё-ж закрыюць?

Не. Па-першае, нас ведае ўвесь дэмакратычны сьвет, замежныя ўрадавыя структуры. Дарэчы, амаль усе свае акцыі мы зьдзяйсьняем, дзякуючы іхнай матар'яльнай дапамогі, бо ў Беларусі цяпер такое эканамічнае становішча, што й нашыя былыя нешматлікія беларускія спонсары сёньня ўжо ня могуць аказаць нам ніякае дапамогі. Па-другое, Чарнобыль ёсьць ня толькі бяда Беларусі, гэта — сусьветная бяда. Тым больш, што шмат набудавалі на тэрыторыі былога СССР такіх самых "патэнцыяльных Чарнобыляў", напрыклад, у вас у Літве дзейнічае Ігналінская АЭС.

Посьпехаў Вам у Вашай высакароднай працы!

*Гутарыў* Павал Саўчанка




Г. Грушавы й а. Надсан пры разгрузцы чарговага гуманітарнага грузу мэдыкамэнтаў і вітамінаў зь Лёндану. Менск,1996 г.

Яго Сьвяцейшаству
Патрыярху Маскоўскаму
і Ўсея Русі Алексію II

Ваша Сьвяцейшаства!

Я ўжо аднойчы пісаў Вам ліст наконт будаўніцтва храма ў адным з забруджаных населеных пунктаў Чарнобыльскай зоны - горадзе Брагіне Гомельскай вобласьці ў памяць аб катастрофе, якая здарылася ў выніку аварыі на атамнай станцыі, і загінуўшых з гэтай прычыны людзей. Аднак адказу я не атрымаў. Таму цяпер вырашыў звярнуцца да Вас з адкрытым лістом.

А напісаць Вам гэты ліст мяне падштурхнула тое, што я не магу абыякава ўспрыняць Ваш крок, зьвязаны з прысуджэньнем прэміі Міжнароднага фонду "Адзінства праваслаўных народаў" Аляксандру Лукашэнку. Па-першае, тэрмін прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў яго, згодна Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, закончыўся 20 ліпеня 1999 г. і супраць створанага ім рэжыму ўзбуджаная крымінальная справа паводле факту захопу ўлады неканстытуцыйнымі сродкамі й вядзецца сьледзтва.

Па-другое, і гэта ў дадзеным выпадку ня менш важна, Лукашэнка, як гэта рабілі й робяць усе дыктатары, разьядноўвае народ Беларусі ў адпаведнасьці з тым самым бальшавіцкім прынцыпам "Хто ня з намі, той супраць нас". Пры гэтым "чэсныя" ён лічыць тых, хто падтрымаў і працягвае падтрымліваць зьдзейснены ім у лістападзе 1996 г. дзяржаўны пераварот і ўсталяваньне ў Беларусі дыктатарскага рэжыму. Гэткімі зьяўляюцца, у асноўным, былая партнаменклатура, работнікі КДБ і іншых сілавых структураў.

Прыйшоўшы на хвалі папулізму да ўлады, Лукашэнка 23 лістапада 1996 года ў інтэрвію нямецкай газэце "Гандэльсблат" заявіў, што ён бачыць сваю ролю прэзідэнта Рэспублікі Беларусь такой, якую выконваў Адольф Гітлер у фашысцкай Германіі, і хоча пабудаваць у Беларусі гэткую дзяржаву, якой была Германія часоў "фюрэра". З тых часоў усе ягоныя практычныя крокі падцьвярджаюць выказаныя тады жаданьні. І ўсіх тых, хто гэтыя крокі не падтрымлівае, дыктатар адносіць да "нячэсных".

У Беларусі сёньня ўся ўлада сканцэнтраваная ў адных руках. Таму ў многіх міжнародных арганізацыяў і палітычных дзеячоў ёсьць усе падставы лічыць, што пасля падзеньня ў Югаславіі рэжыма Мілошавіча Беларусь застаецца апошнім аплотам дыктатарскага рэжыму ў Эўропе. Больш таго, створаны ў Беларусі дыктатарскі рэжым зьяўляецца ў адносінах да саміх беларусаў па-сутнасці акупацыйным, бо ўсе ключавыя пасады ў ім займаюць стаўленікі Масквы, многія з якіх ёсьць кадравыя афіцэры спэцслужбаў ці вайскоўцы. Затое ў сталіцы Беларусі Менску ўжо няма ніводнай беларускай школы, усе дзяржаўныя ўстановы ў рэспубліцы і ВНУ працуюць на рускай мове. А ўсіх тых, хто адстойвае правы беларускага народу мець сваю мову, паважаць сваю гісторыю й разьвіваць нацыянальную культуру, — дыктатар і ягонае расейскае атачэньне таксама залічвае да "нячэсных" і навешвае ім ярлык нацыяналістаў. Многія з актыўных дзеячоў апазіцыі дыктатарскаму рэжыму проста бясьследна зьнікаюць, або паводле сфабрыкаваных справаў заключаныя ў турмы, як гэта й рабілася ў фашысцкай Германіі і ў час сталінскага рэжыму ў Савецкім Саюзе. Выкарыстоўваючы сродкі масавай інфармацыі, дыктатар неаднаразова аддаваў каманду "надзець наручнікі без суда й следзтва" на таго ці іншага няўгоднага яму чалавека.

За гады існаваньня дыктарскага рэжыму народ Беларусі даведзены да жабрацтва, затое пад яго апякунствам карупцыя ў Беларусі дасягнула нябачаных дагэтуль памераў. Усе тыя, каго ў час сваёй прэзыдэнцкай кампаніі 1994 г. Лукашэнка абяцаў пакараць за карупцыю, сёньня ўваходзяць у ягоную каманду.

Створаны ў Беларусі й падтрыманы шавіністычнымі коламі Расеі, і перадусім зноў-такі кіраўнікамі КПРФ, дыктатарскі рэжым, як у свойчас і ягоныя папярэднікі — фашысцкі рэжым у Германіі й бальшавіцкі ў Савецкім Саюзе — імкнецца ўвесь час умацоўвацца ўнутры краіны й пашырыць сфэру свайго ўплыву. Менавіта ў гэтым і заключаецца сапраўдная прычына памкненьняў Лукашэнкі стварыць нейкі нябачаны да гэтага часу "славянскі саюз", у якім ён хоча выконваць тую ролю, якую выконваў у Трэцім Рэйху ягоны кумір Гітлер, ці ў так званым "сацыялістычным лягеры" — Сталін, партрэты якога на мітынгах і дэманстрацыях выносяцца побач з партрэтамі Лукашэнкі.

Гаворачы аб адзінстве праваслаўных славянаў, неабходна памятаць, што значная частка беларусаў зьяўляюцца каталікамі й пратэстантамі, а некаторыя прызнаюць наогул нехрысьціянскія рэлігіі. Больш таго, у рэспубліцы з даўніх часоў жывуць людзі, якія адносяцца да неславянскіх нацыяў. Таму адной з рысаў нацыянальнага менталітэту беларусаў зьяўляецца іхняя талерантнасьць.

Што тычыцца самога Аляксандра Лукашэнкі, дык ён публічна заяўляў, што лічыць сябе "праваслаўным атэістам". Зыходзячы з гэтага, можна меркаваць, што Праваслаўная царква яму патрэбная толькі для дасягненьня ўсё тых самых уладалюбных памкненьняў. Таму гэткая ўвага высокіх герархаў Рускай Праваслаўнай Царквы да гэтага невылечна хворага на ўладалюбства чалавека нельга ўважаць іншым, як падтрымкай расейскай шавіністычнай палітыкі ў адносінах да Беларусі.

З павагай,

*Старшыня Вярхоўнага Савету*
*Рэспублікі Беларусь*

**Сямён Шарэцкі**

# Руская мова ў Беларусі: гісторыя, сучаснасьць, будучыня

Пасля сумнавядомага рэфэрэндаму 1995 г. руская мова зноў, ужо каторым разам, зрабілася ў Беларусі дзяржаўнай. Незважаючы на фармальную роўнасьць зь беларускай, яна адразу пачала імкліва выцісьняць яе з розных сфэраў ужытку й асабліва са сфэры адукацыі ды СМІ. Гэтая тэндэнцыя, насуперак моцнаму супраціву з боку беларускае інтэлігенцыі, доўжыцца й да сёньня, таму мы павінныя добра ведаць гісторыю ўзьнікненьня й фармаваньня рускай мовы, ейны ўплыў на мэнталітэт жыхароў Беларусі, незалежна ад іхнага нацыянальнага ды канфэсыйнага статусу.

Такім чынам, крыху гісторыі... Калі адгарнуць энцыкляпэдыю "Беларуская мова" выданьня 1994 г. на ст. 495 і прачытаць артыкул "Руская мова", дык можна даведацца шмат цікавага. Напрыклад, там паведамляецца, што пасьля распаду праславянскага этнамоўнага адзінства сфармаваліся тры роднасныя групы моваў: усходняя (старажытнаруская народнасьць), заходняя (палякі, чэхі, славакі, лужычане, паморскія славяне) й паўднёвая (балгары, славенцы, сэрбы, харваты й македонцы), - кожная з сваімі моўнымі асаблівасьцямі. І тут адразу ўзьнікае пытаньне: чаму заходнія й паўднёвыя славяне ня мелі агульнай заходнеславянскай ці паўднёваславянскай мовы, а ўсходнім яна спатрэбілася, незважаючы на непараўнальна большы арэал іхнага расьсяленьня? Думаецца, даўно ўжо прысьпеў час нашым гісторыкам і філёлягам выкінуць на сьметнік міфічную "старажытнарускую народнасьць", прыдуманую й навязаную нам псэўданавукоўцамі Расейскае імпэрыі. Тым больш, што ва Украіне гэтак ужо зрабілі.

Надалей у энцыкляпэдыі гаворыцца, што старажытнаруская або агульнаўсходнеславянская мова йснавала з VII па XIV ст. ст., а гэта ажно 700 гадоў! Зноў супярэчнасьць, бо тэрыторыя асноўных этнічных рускіх земляў была заселеная славянамі толькі ў XI-XII ст. ст., а раней на ёй жылі фіна-ўгорскія плямёны, мова якіх нічога супольнага з славянскімі ніколі ня мела.

Паводле энцыкляпэдыі беларуская, украінская й руская мовы скаліся адначасова ў XV ст., але ніякіх важкіх доказаў гэтага не прыводзіцца, бо, верагодна, іх проста няма. Між тым, як менавіта гэтае пытаньне патрабуе сур'ёзных дасьледаваньняў, бо з XIV па XVI ст. беларусы з украінцамі жылі супольна ў межах аднае дзяржавы - Вялікага княства Літоўскага, таму іхныя мовы не маглі разьвівацца гэтаксама, як руская ў межах Маскоўскага княства, былога васала Залатой Арды. Разам з тым у энцыкляпэдыі нічога ня згадваецца пра мовы наўгародзкага й пскоўскага ўсходнеславянскіх этнасаў, каторыя пэўны час разьвіваліся адасоблена ад Масковіі, дасягнулі свайго росквіту ў XIV-XV ст. ст., але затым былі гвалтоўна зьнішчаныя маскоўскімі заваёўнікамі.

На маю думку, беларуская мова, як і сам беларускі этнас, склаліся значна раней за XV ст. (бо напачатку XVI ст. мы ўжо мелі сваю друкаваную кнігу), а менавіта ў другой палове XII ст., калі зь летапісаў зьніклі найменьні плямёнаў, якія зьяўляліся продкамі беларусаў. А з другой паловы XIII ст. беларуская мова была ўжо афіцыйнай мовай новай дзяржавы –Вялікага княства Літоўскага са сталіцай у Навагрудку. І дасягнула свайго найвялікшага росквіту, зрабіўшыся таксама й мовай міжнацыянальных стасункаў, якраз у XV ст. Затое ў рускай мове напрыканцы XIV ст. у зьвязку з паўднёваславянскім уплывам узмацняецца архаізацыя, узьнікае напышлівы, урачысты стыль, вельмі непадобны да тагачаснага канцылярскага, юрыдычнага й дыпляматычнага стылю беларускай мовы.

У XVII ст. руская мова фармуецца на глебе маскоўскай гаворкі, якая ўважалася за ўзорную, і разам з тым мае шэраг запазычаньняў з старабеларускай мовы, асабліва што датычыць будаўніцтва й рамёстваў (да прыкладу, слова "кафель" перакачавала з старабеларускага "кафля").

Тымчасам жыхары этнічных беларускіх земляў упершыню непасрэдна сутыкаюцца з рускай мовай толькі ў сярэдзіне XVII ст. у часе вайны 1654-67 гг., калі вялікая тэрыторыя нашай краіны была часова захопленая маскоўскім войскам. Менавіта тады адбылося першае масавае прымусовае перасяленьне беларусаў у Маскоўскае княства й непасрэдна ў Маскву, дзе, дарэчы, якраз беларусы заснавалі Мяшчанскую слабаду й складалі тады да 30 адсоткаў насельніцтва гэтага гораду.

XVIII ст. - пераломны этап у йснаваньні абедзьвюх моваў. У той час, як пасьля 1696 г. на абшарах ВКЛ адзінай дзяржаўнай робіцца польская мова й пачынаецца заняпад беларускага пісьменства, у Расейскай імпэрыі назіраецца цалкам адваротная тэндэнцыя. Дзякуючы намаганьням Ламаносава й Карамзіна руская мова робіцца мовай навукі й дзяржаўнага апарату, і такім чынам атрымоўвае моцны штуршок у сваім далейшым разьвіцьці. А пасьля гвалтоўнага падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. руская мова робіцца дзяржаўнай і на ўсёй тэрыторыі этнічнай Беларусі, каторая цалкам адыйшла да Расейскай імпэрыі. Тры далейшыя дзесяцігодзьдзі ў Беларусі ў сфэры адукацыі й навукі рускай мове моцную канкурэнцыю складала польская, аднак пасьля задушэньня паўстаньня 1830-31 гг. распачалася татальная русыфікацыя беларускага народу й нават назва краіны "Беларусь" з 1840 г. падлягала забароне.

Цягам XIX і асабліва XX ст. ст. этнічнае беларускае насельніцтва рознымі шляхамі рэгулярна перасялялася ў Расею, а Беларусь актыўна й мэтанакіравана засялялася расейцамі, прычым галоўным чынам гэта былі буйныя й сярэднія гарады. Колькасны пік наплыву расейскага насельніцтва ў Беларусь прыпадае на 1989 г., калі паводле перапісу тут жыло 1,324 млн. расейцаў, у якасьці-ж роднай падчас згаданага перапісу рускую мову назвалі 3,244 млн. насельнікаў Беларусі (да параўнаньня, у 1979 г. - 2,688 млн.), сярод іх 1,311 млн. рускіх і 1,933 млн. прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, у тым ліку беларускай. Сягоньня, пасьля набыцьця Беларусьсю статусу незалежнай краіны, гэтыя лічбы зьмяніліся: грамадзянаў, якія ўважаюць сябе за рускіх, значна паменела, а сьвядомых беларусаў стала болей.

Каб спыніць далейшы заняпад беларускае мовы ды вярнуць ёй належны статут у новым стагодзьдзі, айчынныя й замежныя гісторыкі й мовазнаўцы павінныя пазбыцца старых імпэрскіх ды савецкіх падыходаў у вызначэньні ролі рускай мовы ва ўсіх сфэрах жыцьцядзейнасьці нашай краіны. Папершае, трэба канчаткова разьвеяць міт пра выключную ролю рускай мовы ў Беларусі ды пазбавіць яе місіянскай і панславянскай функцыі. (Разам з тым неабходна надаць большай увагі вывучэньню й пашырэньню ўкраінскай і польскай моваў, як моваў нашых славянскіх суседзяў). Па-другое, трэба канкрэтна вызначыць межы й месца рускай мовы ў сыстэме адукацыі, грамадзкага кіраваньня, выдавецкай дзейнасьці, СМІ ды іншых інфармацыйных сфэрах.

На маю думку, у краіне, дзе беларусы складаюць амаль 82 адсоткі насельніцтва, можа быць толькі адна дзяржаўная мова - мова тытульнай нацыі. Колькасьць рускамоўных дзяржаўных установаў не павінная сягаць за 15-20 адсоткаў, зыходзячы з колькасьці рускамоўнага насельніцтва, каторае стала карыстаецца рускаю моваю.

У дзяржаўных беларускамоўных навучальных установах, найперш у школах, зь першай клясы павінна абавязкова вывучацца адна з эўрапэйскіх моваў: ангельская, нямецкая, француская, гішпанская, - у залежнасьці ад пажаданьня бацькоў. Зь пятай клясы бацькі разам зь дзецьмі выбіраюць дадаткова яшчэ адну з такіх славянскіх моваў: рускую, украінскую, польскую, чэскую, баўгарскую. Прымусовае вывучэньне рускай мовы трэба забараніць як імпэрска-савецкі пэражытак. Несумненна, што сёньня бальшыня абярэ рускую мову, але-ж знойдзецца й шмат ахвочых вучыцца іншых славянскіх моваў. Студэнты сярэдніх спэцыяльных і вышэйшых установаў таксама павінныя мець права выбіраць на першых курсах якуюсь адну з трох моваў нашых славянскіх суседзяў.

На ўсёй тэрыторыі нашай рэспублікі павінныя быць у шырокім ужытку й мець распаўсюд кнігі ды іншая друкаваная, відыёі аўдыёпрадукцыя ня толькі па-руску, але й на мовах усіх нашых суседзяў. Кожны грамадзянін мае права разам з рускім глядзець польскае і ўкраінскае тэлебачаньне ў кожным кутку Беларусі.

*Старшыня ТБМ*
Алег Трусаў

# Пячаткі князя Аляксандра Цьверскага

У Цьвер прыехаў Шэквал, братаніч татарскага хана Узьбека. Зь ягоным прыездам у Цьверы пачалося "насилие творитися", што прывяло да паўстаньня 15 жніўня 1327 г. У выніку татары былі перабітыя, а татарскі княжыч Шэквал спалены. Паўстаньне ў Цьверы паслужыла нагодаю маскоўскаму князю Івану Данілавічу Каліце атрымаць дапамогу ад хана Узбека ў 50 тыс. вояў. Цяпер Іван Каліта мог расправіцца з сваім супернікам князем Аляксандрам Іванавічам Цьверскім, і ён, упэўнены ў перамозе, рушыў з сваім войскам на Цьвер. Князь Аляксандар Міхайлавіч разумеў, што ня мае сілаў супрацьстаяць маскоўскаму князю. Ён забраў жонку, дзяцей, верных слугаў-баяраў ды паехаў у Пскоў. Пскавічы добра прынялі Аляксандра й прысягнулі "крест целоваша, что его не выдати князем руским" [1].

Даведаўшыся, што цьверскі князь прыпыніўся ў Пскове, Іван Каліта паехаў у Арду да хана Узбека, атрымаў яшчэ большую дапамогу й, гнаны прагаю помсты, падыйшоў да Ноўгарада. Тымчасам пасланцы Каліты прыбылі ў Пскоў з патрабаваньнем, каб Аляксандар ехаў у Арду на суд да хана Узбека. Аляксандар ня быў наіўны й добра ведаў, што яго чакае ў Ардзе. Аднак ён разважыў, што лепш яму памерці аднаму, чымсьці губіць "крестианы" (хрысьціянаў-пскавічоў). Але-ж верныя Аляксандру й дадзенаму яму слову пскавічы склікалі веча й пастанавілі цьвёрда стаяць за князя Аляксандра. Яны ня радзілі яму ехаць у Арду й абяцалі "оже что будет на тобе, измором и мы с тобою во едином месте" [2]. Аляксандар супакоіўся, паверыўшы пскавічам.

Калі пастанова пскоўскага веча дайшла да маскоўскага князя, ён занепакоіўся, ведаючы ваяўнічасьць і мужнасьць пскоўскіх вояў. Пачынаць бойку з такімі адважнымі воямі было рызыкоўна, і князь Іван Данілавіч вырашыў парадзіцца з хітрым грэкам, мітрапалітам Феагностам. І той парадзіў князю выкарыстаць не вайсковы, а "духоўны меч", і наклаў "проклятие и отлучение на князя Александра и на весь Псков и на всю землю их" [3].

Анафема мітрапаліта (першая, дарэчы, у Русі) занепакоіла Аляксандра. Ён зьвярнуўся з прамовай да пскавічоў: "... братья моя и друзи мои, не буди на вас проклятиа ни отлучениа мене ради, еду из града вашего вон" [4]. Князь падзякаваў пскавічам за прытулак і мужнасьць, папрасіў іх заапекавацца ягонымі жонкай і дзецьмі, а сам, прыблізна ў лістападзе 1329 г., пакінуў Пскоў. Пскоўскі летапісец журботна піша "Тогда бяшеть во Пскове туга и печаль и молва многа по боголюбивом князе Александре" [5].

Пасьля ад'езду Аляксандра пскавічы паслалі паслоў да маскоўскага князя зь весткай, што Аляксандра ў Пскове няма. Каліта зрабіў выгляд, што ён задаволены гэтым і пагадзіўся аднавіць мірны дагавор з пскавічамі, а мітрапаліт Феагност зьняў з пскавічоў свой праклён і адлучэньне.

Князь-жа Аляксандар, каторы стаўся "изгоем", выгнаньнікам з свайго Цьвярскога княства, знайшоў прытулак у князя Гедыміна. Пісьмовыя крыніцы не паведамляюць пра ягонае жыцьцё ў Вялікім княстве Літоўскім, але можна прыпушчаць, што Гедымін сустрэў Аляксандра прыхільна. Ён даводзіўся Гедыміну сваяком: старэйшы брат Аляксандра Дзімітры быў пашлюбаваны з дачкою Гедыміна Марыяй. (15 верасьня 1325 г. Дзімітры быў закатаваны ў Ардзе). Пражыўшы ў Гедыміна 18 месяцаў, Аляксандар вярнуўся ў Пскоў (прыкладна ў канцы траўня 1331 г.) і пскавічы прынялі яго "честно".

Паколькі Пскоў падпарадкоўваўся наўгародзкаму архіепіскапу, Гедымін і Аляксандар вырашылі сьпярша ўнезалежыць яго рэлігійна, а затым ужо палітычна прымацаваць да ВКЛ. Восеньню 1331 г. яны паслалі пасольства ва Уладзімер Валынскі да мітрапаліта Феагноста з просьбаю хіратанісаваць манаха Арсенія ў епіскапа пскоўскага. Праўдападобна, што ноўгарадзкі ўладыка Васіль супраціўся хіратаоніі, даказваючы, што ў Пскове ніколі не было епіскапата, што Пскоў здаўна належыць да ноўгарадзкай епархіі. Мабыць, доказы ноўгарадзкага ўладыкі пераканалі мітрапаліта Феагноста, і ён адмовіўся "поставити во Псков своего им епископа" [6]. Нездарма ноўгарадзкі летапісец, дакараючы пскавічоў, кажа: "изменили крестное целование Новгороду, посадили собе князя Александра из литовския руки" [7]. Гэтая летапісная зацемка сьведчыць, што Пскоў у 1331 г. падначаліўся вялікаму князю Гедыміну.




Гедымін, пасылаючы Аляксандра ў Пскоў, даручыў яму зрабіць новую пячатку, бо ягоныя ранейшыя пячаткі не адпавядалі ўзьнікламу палітычнаму становішчу. Старая пячатка цьверскага князя мела на адным баку вобраз Хрыста-Пантакрата, а на адваротным — вобраз патрона, сьвятога воіна Аляксандра ў поўны рост зь дзідаю й шчытом. (Гэтая пячатка, напрыклад, прывешаная Аляксандрам да дагавару з Ноўгарадам 1326-27 гг.). Як і даручаў вялікі князь, Аляксандар зрабіў новую пячатку, зьмясьціўшы на ёй літоўскую эмблему рыцара-князя з узьнятым мечам, а на адваротным баку — надпіс "Печать княжа Олександрова" [9].




Такія пячаткі былі знойдзеныя падчас археалягічных раскопкаў у Пскове ў 1962 і 1972 гг. Адна зь іх знаходзіцца ў калекцыянэра Ю. Шаўчэнкі. Вызначаючы прыналежнасьць гэтых пячатак, гісторык С. В. Белецкі сабраў інфармацыю пра ўсіх Аляксандраў, каторыя княжылі ў Пскове ў XIV-XV ст. ст., і, прааналізаваўшы іхны побыт у горадзе, прыйшоў да высновы, што толькі князь Аляксандар Міхайлавіч Цьверскі мог быць уласьнікам гэтых пячатак. На думку Белецкага выява "литовского всадника" на пячатцы Аляксандра "связано с политическим альянсом" Аляксандра Цьверскага й Гедыміна [10].

Калі ўзяць пад развагу паведамленьне Ноўгарадзкага летапісца, што Пскоў узяў сабе князя "из литовския руки" й што гэты князь прывешвае да пскоўскае граматы пячатку зь літоўскай эмблемай, дык можна меркаваць, што князь Аляксандар зрабіўся васалам вялікага князя Гедыміна. Толькі так можна вытлумачыць зьяўленьне на пячатцы Аляксандра рыцара-князя на кані з узьнятым мечам. Падобную сытуацыю маем і ў 1333 г. Ноўгарад папрасіў Гедыміна прыслаць ім князя, і Гедымін паслаў свайго сына Нарымунта-Глеба з даручэньнем зрабіць пячатку з выявай рыцара-князя на кані [11]. Аднак княжаваньне ў Ноўгарадзе Нарымунту-Глебу не спадабалася [12], і ён паехаў княжыць у Полацак, дзе прывесіў сваю пячатку да гандлёвага дагавору 1338-41 гг. з Рыгаю [13].




Выглядае так, што іншыя сыны Гедыміна дазволу карыстацца эмблемаю рыцара-князя на кані не атрымалі. Пасьля сьмерці Гедыміна ягоным спадкаемцам на вялікакняскім пасадзе зрабіўся Альгерд. Ён прывесіў пячатку з выявай рыцара-князя да дагавору 1366 г. з польскім каралём Казімерам. Гэтую пячатку давялося пабачыць Тадэвушу Чацкаму [14]. Такім чынам, пячаткамі з выявай рыцара-князя на кані карысталіся выключна вялікія князі, пачынаючы, праўдападобна, ад князя Віценя й да караля Ягайлы, або ўпаўнаважаныя імі асобы, як князі Аляксандар Цьверскі ці Нарымунт-Глеб.

На жаль, пячатак Гедыміна сфагісты пакуль не разшукалі. Аднак, калі Гедымінаў васал Аляксандар зь ягонага дазволу меў пячатку з "литовским всадником", дык, зразумела, што Аляксандраў сюзырэн Гедымін і пагатоў меў такую самую эмблему на сваёй пячатцы. Гэтая эмблема рэпрэзэнтавала ня толькі самога вялікага князя Гедыміна, але й цэлае Вялікае княства. Так, калі князь Вітаўт у студзені 1384 г. уцёк ад крыжакоў і падняў паўстаньне супраць вялікага князя Ягайлы, ён даў сыгнал, што эмблема рыцара-князя на кані не зьяўляецца ўласнасьцю Ягайлы й гэтаю эмблемаю маюць права карыстацца нашчадкі Гедыміна. Эмблему гэтую за караля Ягайлы пачалі называць "Пагоняй". "Пагоня" зрабілася гербам Вялікага княства Літоўскага, Рускага й Жамойцкага.

### Сьпіс выкарыстаных крыніцаў:

**1.** Псковские летописи. Вып. 2, Изд. АН СССР, М. 1955, ст. 23.
**2.** Псковские летописи. Вып. 1, Изд. АН СССР, М.-Л. 1941, ст. 16-17.
**3.** ПСРЛ, т. Х. Патриаршая или Никоновская. М. 1965, ст. 202.
**4.** Псковские летописи. Вып. 2, Изд. АН СССР, М. 1955, ст. 91.
**5.** Там-жа, ст. 23, 91.
**6.** ПСРЛ, т. Х. Патриаршая или Никоновская. М. 1965, ст. 205.
**7.** Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.-Л. 1950, ст. 343.
**8.** Янин В. Л. Актовые печати древней Руси X-XV вв. М. 1977, Т. 2, Ст. 163, № 405.
**9.** Белецкий С. В. Печать княжа Олександрова. "Соврем. археология" М. 1985, № 3, ст. 231.
**10.** Там-жа, ст. 239.
**11.** Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.-Л. 1950, ст. 346.
**12.** Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.-Л. 1950, ст. 349.
ПСРЛ, т. XXV. Московский летописный свод конца XV в. М.-Л. 1949, ст. 171.
**13.** Лихачёв Н. П. Материалы для византийской и русской сфагистики. Л. 1928, т. 1, ст. 53.
Полоцкие грамоты XIII - начала XVI вв. Составила А. Л.Хорошкевич, М. 1977, т. 1, № 46 ст. 39-41.
**14.** Czacki Tadeusz. O litewskich i polskich prawach, Krakyw 1861. Wydanie K. J. Turowskiego, ст. 81

Міхась Белямук

Напрацягу стагодзьдзяў у афіцыйных падручніках Расейскай імперыі, а потым і Савецкака Саюзу вялікія літоўскія князі паказаваліся агрэсыўнымі захопнікамі, якія "агнём і мечам" далучалі да ВКЛ г. зв. "исконно русские земли". Сапраўды, у XIV стагодзьдзі Вільня, як і Масква, была адным з двух цэнтраў аб'яднаньня ўсходнеславянскіх княстваў. Але з артыкула сп. Белямука, як і са шматлікіх працаў іншых сумленных гісторыкаў, мы бачым, што агрэсарам і захопнікам у адносінах да Пскова і Цьверы стае зусім ня князь Гедымін і ВКЛ, а, наадварот, Іван Каліта й руска-татарская маскоўская дзяржава.

Агульнавядома, што ў спаборніцтве Масквы й Вільні за лідэрства перамаглі зусім не эўрапейскія традыцыі й спосаб вытворчасці. У выпадку перамогі Вільні, далейшы лес нашае дзяржавы, а таксама Расеі, Украіны ды іншых краінаў Усходняй Эўропы, склаўсяб інакш.

## МІКОЛА ЗЭРАЎ

# САНЭТЫ

### ДАНТЭ

Дзівоснай сагаю, бяз ветразя й вясла,
Мы праплывалі ўдвох, я й чараўнік Вяргілі,
Ён быў, як з бронзы - а на небасхіле
Рака лілеямі бялела і цьвіла.

Бязь ліку жальбы там пляліся і хула,
Сьвітала ў пустцы, хвалі ў човен білі;
Зь нябесным пасланцом мы ціха гаманілі,
А сьперапу да нас лілеяў бель плыла.

Я чуў: "Лілеі, што нас гэткім пояць чарам,
Далёка ад зямлі, ад valle lacrimarum,
Ўзрасьлі тут засевам патужнае рукі;

Далёкія ад бед і ад зямное сваркі,
Гайдаюцца і сьняць спрадвеку дваінікі
Санэтаў ненароджаных Пэтраркі".

22/IV 1921

### ХІРОН

Высока грэбень свой узносіць Эта
Над дываном смарагдавых далін;
Кентаўр стварае й смутак чарацін
І тонкі гук выказваюць паэта.

І сьпеў яго - пляск ціхаводнай Леты...
Яго пабожна п'юць Арфей і Лін,
І горкі гора людзкага палын
Ўраз ператвораны на мёд Гімета.

Даўно забыўшы родны свой табун,
Прывык да лекаў ён і лірніх струн,
Да слоў людзкіх і Фебавага лаўра.

Настроены на мусыкійскі тон,
Ён перамог зьвярыны юр Кентаўра,
Сябар сьмяротных і багоў, Хірон

25/II 1922

### САЛАМЕЯ

П. ФІЛІПОВІЧУ

Там левантыйскі месяц дзее чары
І калыхае ў цёплым сэрцы кроў,
Там дзікім цьветам працьвіла любоў,
І ўсё ў крыві - шаломы і тыяры.

А з вадазбору прадказаньнем кары
Грымяць грамы нястрыманых прамоў...
Ёканаан!.. Ня сьветлы шум дуброў, -
Ў ягоных словах пусткі і пажары.

І Саламея!.. Шчэ дзіцё (дзіцё!),
А п'е й яна атрутнае піцьцё
І толькі меч на помсту наклікае.

Душа мая! Ўцякай на карабель,
Плыві туды, дзе зьзяе скалаў бель,
Дзе чыстая, як промень, Наўзікая.

18/VI 1922

### НАЎЗІКАЯ

*...ніжна Навсікая*
*Стрìнка дочка феацького царя.*
*М. Рильскі*

Феацкі квеце, сэрца Наўзікая,
Як промень сонца на пяску марскім!
Перад табою ўбогі пілігрым
І мора пурпуровае бяз краю.

Твой царскі жэст склікае ўмомант зграю
Рабынь, працятых пострахам нямым,
Звыродзь й пекнаты праменны німб
Па-над ілбом, яшчэ дзіцячым, зьзяе.

Стаіць зьбянтэжаны бадзяга Адысей,
Пад чарамі брывоў і доўгіх вей
Забыць гатовы безьмеж мук і гора:

Гаючая, жывая, як раса,
Ружовым пляскам Элінскага мора
Яму сьмяецца радасна Краса.

15/IX 1922

### СОН СЬВЯТАСЛАВА

Я бачыў сон. Цяжкіх пярлінаў град
На грудзі больна сыпаў мне, старому,
Сьцялілі мне струпехлую салому
І піць давалі не віно, а чад.

Я позіркам абводзіў далягляд
І адчуваў праз полаг нерухомы,
Як сыпаліся княскія харомы,
Як крумкаў крук і як зьвіваўся гад.

О, што за роспач розум мой скавала!
Нібы праз сэрца працякла Каяла,
Што за зданьнё на сэрца налягло!

У месяцовым зьзянтні дол сцюдзёны,
Антэну вецер гне, нібы сьцябло,
І чорны дзень дзесь звоніць у страмёны.

23/IV 1931

### У ТРАЎНІ

Эмаль Дняпра, сьліпуча-сіні сплаў,
Газон прысадаў, голае каменьне.
І ў павадку празрыстага праменьня
Зялёны луг - нібы разлогі стаў.

Ніколі гэтак прагна не ўбіраў
Я прыгажосьць вясеньняга адзеньня,
Пясок абмелін, раньняе зіхценьне,
Лазу брунатную, смарагды траў.

Праз цэглу й брук штурші крыві зялёнай
Зямных расьлін, і лісьце чарнаклёна
Крывавіцца ў сьвячэньні ліхтароў.

І між муроў каменных за штыкетам
Акруглых яблынь цёмны куст ўзыйшоў
Такім жывым разпадзістым букетам.

12/III 1933

*Пераклаў з украінскай А. М.*





Сябры рэдакцыі «Руні» выказваюць жаль з нагоды сьмерці **Расьціслава Завістовіча**, выдатнага беларускага грамадзкага дзеяча ў замежжы, старшыні Беларускага Кангрэсовага Камітэту ў ЗША, нашага сталага чытача.

### Беларусы ў дывізіі імя Т. Касьцюшкі

Як ведама, падчас фармаваньня ў СССР польскай арміі пад камандаваньнем ген. Андэрса беларусаў і ўкраінцаў, былых грамадзянаў Польшчы, туды амаль не залічвалі. 26 красавіка 1943 г. савецкі ўрад парывае дыпляматычныя зносіны з польскім экзыльным урадам у Лёндане. Падставай было тое, што польскі ўрад зьвярнуўся да Міжнароднага чырвонага крыжа у тым самым красавіку, каб ён (МЧК) абсьледаваў у Катыні магілы памардаваных польскіх афіцэраў, пра што ўпершыню паведаміла Бэрлінскае радыё, абвінавацьўшы ў забойстве Савецкі Саюз. (Варта тут успомніць, што Саветы не прызнаваліся да забойства ажно да цераз 50 гадоў да 1990 г.) Наступствам парваньня дыпляматычных зносінаў СССР і Польшчы сталася тое, што ў 1943 г. Саветы пачалі арганізоўваць яшчэ адну польскую армію, якая, натуральна, ужо поўнасьцю кантралявалася з Масквы.

Напачатку была створаная І-ая пяхотная дывізія імя Т. Касьцюшкі, якой камандаваньне абняў дыплямаваны палкоўнік, а потым генэрал Зыгмунт Бэрлінг. Зразумела, што кіраўнічыя пасты занялі савецкія афіцэры "польскага паходжаньня". Фармавалася дывізія Касьцюшкі з наступных катэгорыяў людзей: а) з тых, хто не пасьпеў уступіць або якіх не прынялі да Арміі ген. Андэрса; б) былыя пабаровыя да Чырвонай Арміі з Зах. Беларусі й Зах. Украіны ў 1940-41 гг., каторыя напачатку вайны былі пераведзеныя ў г. зв. "стройбаты" ("строительные батальоны"). Такім чынам, у Армію ген. Бэрлінга патрапіла шмат беларусаў, ня ведаю, які працэнт, але беларускія гісторыкі ў Польшчы й Беларусі маглі-б вызначыць, пакуль яшчэ жывуць людзі з гэтай арміі. Паводле-ж польскай прэсы тут, у Англіі, у дывізіі ген. Бэрлінга былі "... простыя людзі з Крэсаў, часта дэпартаваныя да Сыбіры".

Першы баявы хрэст гэтае войска прыняло ў Беларусі, каля в. Леніна на ўсход ад Воршы. Паводле словаў Анджэя Пжэвозьніка, сакратара Савету аховы памяці барацьбы й мучаніцтва, да бітвы было "... пхнута маладых, недастаткова вышкаленых жаўнераў супраць адборных, франтавых нямецкіх аддзелаў. Ня цяжка было прадбачыць вынікаў: дайшло да рэзьні". Палягло пад в. Леніна 3054 жаўнеры - 23% ад першапачатковага саставу дывізіі Касьцюшкі й танкавага палка. Сярод забітых, напэўна, было нямала й беларусаў. На вайсковых могілках каля Леніна на табліцах ёсьць і праваслаўныя крыжы, а праваслаўнымі былі выключна беларусы і ўкраінцы.

Пасьля вайны беларусы-вэтэраны арміі Бэрлінга асталіся пераважна ў Польшчы (на па-нямецкіх землях). Яны ваявалі доўга й адважна, не баючыся ні ворага, ні сьмерці, але... баяліся вяртацца на Бацькаўшчыну-Беларусь, баяліся новых арыштаў, ссылак, новых зьдзекаў. Іхныя дзеці й жонкі дый, наогул, грамадзяне даваеннай Польшчы, што знаходзіліся ў СССР, маглі пасьля вайны таксама пераехаць у Польшчу. І шмат хто выехаў да Польшчы на па-нямецкія землі. І трэба зразумець гэтых людзей, яны проста баяліся вяртацца да сваіх родных і блізкіх, да сваіх вёсак, зь якіх іх так гвалтоўна вывезьлі на катаргу "свае", "асвабадзіцелі". Для іх і ў Польшчы таксама не было шчасьця й спакою. Адчувалася варожасьць з боку "крэсаўякаў": былых асаднікаў, спэцперасяленцаў-палякаў ды пад., каторыя пасьля вайны таксама апынуліся на па-нямецкіх землях. Дзеля таго, каб пазьбегчы гэтае варожасьці, шмат якія беларусы ў Польшчы не прызнаваліся ў сваёй нацыянальнасьці й веры, а часам нават мянялі свае прозьвішчы. Такая была рэчаіснасьць.

Частка былых "спэцперасяленцаў" вярнулася ў Беларусь у свае вёскі. Але ня шмат і ня цэлыя сем'і. Часта бывала, што гэта былі жанчыны, мужы й сыны якіх загінулі на фроньце, як пад Монтэ-Касыно, у Францыі, пад Леніна й інш. Здаралася й так, што сем'і былі разлучаныя, бо іхныя мужы й сыны аселі ў Польшчы, у Англіі ці ў іншых краёх сьвету. А ў тых часох і гаворкі не магло быць, каб палучыцца з сем'ямі ў іншых дзяржавах, тым больш аб выездзе ў "капстраны" (капіталістычныя краіны).

Падсумоўваючы напісанае, хачу зазначыць, што лёс беларусаў, якія з розных прычынаў апынуліся пасьля 1939 г. у глыбіні СССР, быў такі:

Шмат памерла на катарзе.

Частка засталася настала ў СССР.

Малая частка вярнулася ў Беларусь.

Частка выехала з польскім войскам у 1942-43 гг. да Ірану. (Па вайне з гэтага войска вярнулася ў Беларусь ня менш 888 асобаў. Спачатку асобных зь іх НКУС арыштаваў і пасадзіў у турмы. У ноч з 31.3 на 1.4 1953 г. арыштавалі астатніх і разам зь сем'ямі вывезьлі на катаргу ў Іркуцкую вобл. Зь Літвы вывезьлі ў гэтую жахлівую ноч 40 былых жаўнераў зь сем'ямі).

Частка выехала да Польшчы. У гэтай групе былі людзі, якія служылі ў Арміі ген. Бэрлінга, а таксама цывільныя асобы, што баяліся вяртацца да сваёй роднай зямлі.

Дзеля прыкладу ўспомню тут лёс маіх аднавяскоўцаў зь Янаўскага павету (цяпер Іванаўскі раён Брэсцкай вобл.), якіх Саветы арыштавалі й вывезьлі на катаргу ў 1939-40 гг. Разам вывезьлі тры сям'і - усяго 21 асобу. З гэтых 21 асобы: а) 3 памерла ў СССР; б) 12 выехала да Ірану; в) 1 была ў Арміі ген. Бэрлінга й засталася ў Польшчы; г) толькі 5 вярнулася ў родную вёску па вайне.

У беларускай прэсе часта пішацца, што падчас астатняй вайны загінуў кожны чацьверты насельнік Беларусі. Гэта вельмі балючая статыстыка. Да трагедыі беларускага народу найбольш прычыніліся немцы. Аднак прычыніліся й НКУС, Армія Краёва (АК), паліцаі, партызаны... Трэба пра ўсіх іх памятаць і пісаць. Ня трэба быць, як кажуць ангельцы, "эканомнымі з праўдай".

М. Швэдзюк
*Англія*

**Цытата зь нейкага Алега Платонава**

"Сегодня, когда Россия вернулась на путь национального возрождения, либерально-большевистские фальсификации истории опасно дезориентируют страну и народ. Либерально-большевистская историография разрывает связь времен, отвращает народ от своих корней, делает его диким и безликим.

Настало время провести полную ревизию либеральной и большевистской исторической науки. Все факты, оценки и выводы ее требуют самой серьезной проверки по первоисточникам и архивам. Критерием положительной или отрицательной оценки могут быть только национальные интересы коренной России. Первый вопрос, на который честно должна ответить историческая наука, – насколько то или иное событие или частное деяние отвечает интересам страны и народа. Взвешивание на весах национальных интересов коренной России создает абсолютный стандарт истинности и достоверности исторического труда.

Говоря о Русском народе, я, как это было принято до 17-го года, отношу к нему все его географические ветви, в том числе малороссов и белорусов. Еще в XIX веке ни у кого не возникало сомнения в принадлежности их к Русской нации. Официальная статистика считала всех их русскими и подразделяла на великороссов, малороссов и белорусов по чисто географическому, а не национальному признаку; подобно Сибири или Уралу, Малороссия и Белоруссия составляют единую географию Русского народа, целостный братский организм. Некоторые языковые, этнографические различия Малороссии и Белоруссии объяснялись особенностями их исторического развития в условиях многовековой польско-литовской оккупации. Провозглашение Русского народа Малороссии особенным народом – результат подрывной работы австро-германских спецслужб (а позднее и вообще западных спецслужб) с целью расчленения единого братского организма России. Взращенные иностранными спецслужбами, "самостийники" являются злейшими врагами Малороссии и Белоруссии, предателями Русского народа..."

*(Натуральна, "взвешивать на весах национальных интересов" зьбіраецца сам Платонов і яголая каманда).*

*Падрыхтаваў* А. М.

**Менш філязофіі, больш практычных крокаў**

Уся прэса ў Беларусі зьмяшчае доўгія філязафічна-фаталістычнага характару артыкулы, маўляў, беларусы ня хочаць вучыцца па-беларуску, беларусы маласьведамыя нацыянальна, расейскай мэнтальнасьці, манкурты й г. д... Распаўсюджаньне такіх доўгіх, апаганьваючых самых сябе артыкулаў вельмі й вельмі шкодзіць беларускай справе. Выглядае так, быццам дапішчыкі пішуць наўмысьля, бо ў іншым выпадку, ведаючы, напрыклад, што з нацыянальнай сьвядомасьцю ёсьць дрэнна, яны мусілі-б паказаць практычны спосаб на павышэньне сьвядомасьці. Той, хто абвінавачвае або асуджае іншых беларусаў у ніжэйшасьці, сам сябе не спасьцерагае, што ён ёсьць нялепшы, бо адукаваныя беларусы нясуць яшчэ большую віну за такі стан.

Прычына маласьведамасьці – недастатковасьць асьветы й патрыятычнага ўзгадаваньня. Вось калісь раней пісаў В. Матусевіч зь Менску ў газэце «Наша Слова»: Мне 32 гады, а мову толькі цяпер вывучаю. Сорамна.... Маім сынам – адзінаццаць і восем гадоў, але можа здарыцца так, што яны таксама прыйдуць да роднай мовы ажно праз дзесяцігодзьдзі. Старэйшы ў 4-ай клясе, але ніводнай лекцыі з гісторыі й культуры Беларусі ў ягоным жыцьці яшчэ не было (пра малодшага сына няма чаго й казаць). Падручнік літаратуры для чацьвертай клясы не выконвае галоўнага свайго прызначэньня – не абуджае ў дзецях любові й патрыятызму да свайго беларускага... Чаму-б, напрыклад, не карыстацца ў школах цудоўнай кнігай «Зямля пад белымі крыламі»? Гэта, фактычна, гатовы падручнік гісторыі й культуры Беларусі для дзяцей 10-12-цігадовага ўзросту. У барацьбе за розум і сэрцы беларускіх дзяцей беларускай мовай трэба карыстацца кажны дзень, кажную хвіліну, і ня толькі гаварыць, але й вучыцца думаць на ёй. Варта хадзіць у сыботы й нядзелі групамі дарослых і дзяцей на гістарычныя месцы гораду, дзе будзе магчымасьцьдзецям размаўляць па-беларуску».

Уважаю за самае галоўнае, што мы мусім рабіць - гэта распрацоўка падручных матар'ялаў (лекцыяў) па беларусаведзе, прасякнутых выхаваўчым зьместам, як для дзяцей-дашкольнікаў, так і для наступнага ўзросту. Курсы такіх лекцыяў трэба разсылаць па ўсіх беларускіх асяродках, а там іх можна лёгка размнажаць. У іншых краінах, якія змагаюцца за ідэю незалежнасьці, існуюць яшчэ горшыя абставіны для здабыцьця ведаў, як, напрыклад, у Чачэніі, Курдыстане дый іншых краінах. Дасылаю вам ксэракопію здымка, на якім паказаная школка для курдыстанскіх дзяцей. У Турцыі, дзе масава жывуць курдыстанцы, забараняюцца мітынгі, пяяньне народных песьняў і курдыстанскае навучаньне. На фатаграфіі паказаны развалены бункер, у якім патаемна праводзяцца заняткі зь дзецьмі. Сонечнае асьвятленьне прамянюе празь дзюрку ў муры бункера. Мы, беларусы, павінныя поўнасьцю выкарыстаць усе магчымасьці для выхаваньня нашых дзяцей і юнацтва.

А-р М.

*Амэрыка*



**Праведнікі народаў сьвету**

У газэце "Рунь" (№ 32) у маёй зацемцы "Цагліна з Параф'янава" ішла гаворка пра жыдоўскую сям'ю Гейдэнсонаў, якую выратавалі мае землякі падчас вайны... І вось да мяне дайшла вестка, што выратавальнікі гэтай сям'і хадайніцтвам ачольніка Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША Сэма Гейдэнсона (нашчадка) сталіся летась Праведнікамі народаў сьвету. Гэтае ганаровае званьне нададзенае двум беларускім сем'ям, Станкевічам зь в. Янавічы й Півінскім зь в. Целяшы (усяго 9-ці асобам), Жыдоўскім інстытутам катастрофаў. Вяртаючыся да часінаў ваеннага ліхалецьця, калі вынішчаліся ні ў чым непавінныя людзі, хачу нагадаць, што падчас растрэлу жыдоў у Параф'янаве двум братам Гейдэнсонам, Шломану й Залману, удалося ўцячы. Спачатку іх прытуліла сям'я Півінскіх зь Целяшоў, што ў 1,5 км ад ст. Параф'янава Докшыцкага раёну. Днём Шломан і Залман хаваліся ў схроне ў хляве, а вечарам пераходзілі ў хату Півінскіх. Калі навісла пагроза й тут, іх перапраўлі ў Янавічы (хутар) да Йвана й Марыі Станкевічаў, у каторых самых было пяцёра дзяцей. Тут браты прабылі да пачатку 1944 г., пакуль не далучыліся да партызанаў з брыгады Мядзьведзева. Адзін з братоў, Залман, загінуў, а Шломан па вайне апынуўся ў ЗША. Ягоны сын Сэм (Сямён) стаўся ў Амэрыцы вядомым чалавекам. Віншую маіх землякоў з высокім міжнародным ганаровым званьнем!

Юры Гіль

**10-годзьдзе з дня заснаваньня**

было шырака адзначанае Нацыянальным дзяржаўным гуманітарным ліцэем імя Якуба Коласа ў Менску. Сярод замежных гасьцей на ўрачыстасьцях была й група настаўнікаў і вучняў з нашай беларускай школы зь Вільні. Ліцэй быў заснаваны ў 1990 г. і ад таго часу працуе ў гуманітарным кірунку: адраджэньне роднай мовы, нацыянальнай інтэлігенцыі, гуманітарныя навукі, разьвіцьцё мастацкіх і літаратурных здольнасьцяў навучэнцаў, паглыбленае вывучэньне замежных моваў. У свойчас да адкрыцьця ліцэю спрычыніліся й беларуская дзяржава. Былы прэм'ер Кебіч даў пад ліцэй будынак, а сп. Ст. Шушкевіч адкрываў яго, знаёміўся з праграмай. Дапамагаў і былы міністар адукацыі сп. Дзямчук. Аднак "бадай" самую вялікую ініцыятыву ў стварэньні гэтай першай і пакуль адзінай сапраўднай нацыянальнай школы праявіла ТБМ на чале з сп. Алегам Трусавым.



Ліцэісты на сцэне

За 10 гадоў установу закончыла 380 чалавек, у 2001 г. закончаць яшчэ 44 ліцэісты. Які-ж падыход да набору навучэнцаў? Насамперш - не прапусьціць, не праглядзець творчую асобу. Прымаюць ахвочых пасьля 7-ай клясы звычайный школы на конкурснай аснове: здаюцца іспыты зь беларускае мовы, гісторыі Беларусі, замежных моваў, практыкуюцца тэсты з усёй школьнай праграмы, патрабуецца, каб кандыдаты мелі творчыя працы. Колькасьць ахвочых на мейсца пры паступленьні вагаецца ад 2,5 да 4,5 чалавек. Дзеці набіраюцца звычайна зь Менску, Менскай вобл., аднак вучацца тут і школьнікі зь іншых мяйсцовасьцяў Беларусі, хоць ліцэй і ня мае інтэрната, і іншагароднім даводзіцца жыць у сваіх сваякоў і знаёмых. Ёсьць і такія, каторыя езьдзяць вучыцца з прыгараду на электрычках. Той, хто не прайшоў конкурсу зь першага разу, можа паўтарыць спробу налета, але для такіх колькасьць ахвочых на мейсца дасягае 13 чалавек.

Навучэнцы забясьпечваюцца бясплатным сьняданьнем, апошняга разу была й матар'яльная дапамога сіротам на Новы Год (да 25 тыс. бел. руб. = $ 25). Цяпер у ліцэі вучыцца адзін круглы сірата, а таксама дзеці з самых розных сацыяльных становішчам сем'яў: з беспрацоўных, з інтэлігентаў, служачых і нават урадавых структураў. Пад увагу бярэцца не пасада бацькоў, а само дзіця, ягоныя творчыя здольнасьці. Сёлета ў ліцэі вучыцца 196 ліцэістаў, вучацца трэба 4 гады (4 курсы), вучоба разьмеркаваная на трымэстры, па заканчэньні кожнага курсу здаюцца іспыты. У выпадку, калі на іспытах вучань атрымлівае дзьве адзнакі "3" з профільных дысцыплінаў, ён выключаецца зь ліцэю.

Па сканчэньні ліцэю выпусьнікі вольна валодаюць мовамі, добра ўмеюць працаваць з кампутарным абсталяваньнем, шмат хто зь іх займае прызавыя мейсцы ў алімпіядах і паступае (практычна ўсе) ў гуманітарныя ВНУ. Вучацца ў іншых краінах: у Італіі (4), у Індыі (2), у Канадзе (1), у Нарвэгіі (1).

Для ліцэістаў распрацаваныя свае арыгінальныя школьныя праграмы (іх зацьвердзіла міністэрства адукацыі), якія маглі-б зрабіцца ўзорам для сярэдніх школаў рэспублікі. Але матар'яльнае становішча ліцэю не адпавядае сучасным патрабаваньням: развальваецца стары будынак, каторы да таго-ж цяперашнія ўлады імкнуцца ўвесь час адабраць, не стае падручнікаў і мэтадычных дапаможнікаў. Праўда, у ліцэі вельмі добрая бібліятэка, выдатная кампутарная кляса. Намесьніца дырэктара спн. Сідарэнка Ірына, дарэчы, заўважыла, што й выкладчыкі таксама набіраюцца ў ліцэй на конкурснай аснове,



Намесьнік дырэктара ліцэю сп. Уладзімір Колас

і цяпер у ім працуе 50 настаўнікаў, зь якіх 10 ёсьць кандыдаты навукаў, 2 – выдатнікі асьветы, 10 – з вышэйшай катэгорыяй. Ёсьць у пэдагагічным калектыве й маладыя спэцыялісты, збольшага – былыя навучэнцы ліцэю.

Пра ўсё распавесьці немагчыма, але мяне асабіста ўразілі вялікі пэдагагічны вопыт і высокі ўзровень ведаў настаўнікаў, творчасьць ліцэістаў, іхныя прыязныя дачыненьні спаміж сабой і да старэйшых, сьціплы ("дэмакратычны") зьнешні выгляд, жывы бляск у вачох. Праз увесь час паўтараў у думках: "Гэта - будучая Беларусь!" Як выкладчык хіміі й біялёгіі, я, натуральна, стараўся даўжэйшы час пабыць на вучнёўскай канфэрэнцыі па хіміі й біялёгіі. Ліцэісты паказалі на канфэрэнцыі глыбокія веды ў гэтых навуках, веданьне сучаснай праблематыкі. Пабываў я й на спэктаклі, які ліцэісты зладзілі на сцэне Тэатра юнага гледача.

Павал Саўчанка

**У выдавецтве "Рунь"**

выдадзеная чарговая публікатка **"Янка Шутовіч"** (шостая з сэрыі "Партрэты віленчукоў") пра вядомага заходне-беларускага дзеяча, рэдактара часопісаў "Калосьсе" й "Студэнцкая Думка", навукоўца, апошняга дырэктара слыннага Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні Янку Шутовіча. Перавыдадзеная і публікатка з гэтай самай сэрыі **"Аляксандар Уласаў"** А. М.

# ЗАКРЫЛІ, ЗАЧЫНІЛІ, РАЗЬВІТАЛІСЯ

Так, сябры - раз і назаўсёды, беспаваротна зачынілі мы дзьверы за сабою, выходзячы з XX ст. Шмат цяпер пішуць аб важных адкрыцьцях, зробленых у ім. Але ня менш важныя для нас і, так бы мовіць, "закрыцьці"… Якія-ж праявы мы пакінулі за парогам прамінулага стагодзьдзя?

Бадай што галоўнае "закрыцьцё" - канец утопіі, міту пра магчымасьць пабудовы раю на зямлі, дзе ўсе будуць шчасьлівыя, роўныя й вольныя, больш вядомага пад назваю "камунізм". А якія былі ймёны, асобы, - ад Кампанэлы й Томаса Мора да Фур'е й Сэн-Сымона, ад Маркса ды Энгельса да Леніна ды Сталіна, Ад Кастра да Альендэ…

А выйшаў - пшык.

Камунізм, як высьветлілася, ёсьць не "савецкая ўлада плюс электрыфікацыя", а ўсяго толькі ілюзія, авалодаўшая масамі. Здавалася-б, ілюзія - гэта нешта імглістае, эфэмэрнае, - не скажыце, не скажыце! Якраз яна, гэтая мара, упэўненасьць у "сьветлай будучыні" перамагла Антанту ў Грамадзянскай вайне ды выйграла безьліч іншых баёў. Хто-ж змагаўся-б, каб ведаў, што наперадзе ГУЛАГ, голад, шэрае існаваньне?.. (У дужках варта зазначыць - ведалі-б тыя, хто стаяў у 91-ым годзе ў Вільні каля тэлевежы ды парляманту, якое жыцьцё яны сабе адваюць, - ці шмат людзей-бы там засталося?)

Моцны быў камунізм. Колькі найвыдатнейшых заходніх інтэлігентаў да апошняга яшчэ часу прытрымліваліся самых "левых" поглядаў - нават вольналюбны Пікасо быў сябрам францускай кампартыі ды накрэмзаў партрэт Сталіна. А славуты Бернард Шоў дык нават выяву вусатага правадыра павесіў у сваёй спальні! А як верылі ў "савецкі рай" заходнебеларускія інтэлігенты!.. Бяда толькі, што гісторыя абярнулася для нас Сізіфавым камянём - ужо бяз Маркса вярнуліся мы ў такі самы "дзікі капіталізм", які панаваў у ягоную эпоху. Адно толькі, што ніколі ўжо не прыйдзе ў цэх, дзе рабочыя працуюць па 12 гадзінаў у суткі, агітатар з "Маніхвэстам камуністычнай партыі". Камунізм - мёртвы. Усялякія спробы "гальванізацыі" гэтага трупа - бясплодныя.

Мы цяпер жывём як-бы ў час велізарнага "пахмелу" - і ад камуністычнай сівухі, і ад п'янкога віна барацьбы за незалежнасьць. Мы - працьверазелі. І бачым усё, як яно ёсьць у сапраўднасьці - што спадзявацца можна толькі на самога сябе, на свае локці ды пазгуры…

* * *

Адыйшоў камунізм. Сыйшлі з п'едэсталаў і ягоныя героі. Ніхто ўжо не ставіць моладзі ў прыклад Паўку Карчагіна ды Паўліка Марозава. Іншы час - іншыя ідэалы.

Ня так даўно ўплывовая журналістка Ліна Печалюнене заклікала выхоўваць моладзь на сьветлым вобразе апошняга "ляснога брата" Краўяліса-Сяўбунаса (перакладаецца прыкладна як "Крывавы сейбіт жаху"). Трэба, кажа, пра гэтую асобу фільмы здымаць, аповесьці ды песьні пісаць. Сам спадар прафэсар Ландзбергіс на мейсцы гібелі героя пасадзіў дубок (які, небарака, неўзабаве высах).

"Сейбіт жаху" пачаў свой баявы шлях з таго, што застрэліў дырэктара гімназіі. Чым ня прыклад? Навошта, як той Паўлік Марозаў, бацьку "здаваць" (няхай грошы зарабляе), а вось "кокнуць" дырэктара гімназіі - самы кайф! Праўда, аднавяскоўцы ўзгадваюць, што "Сейбіт" быў ласы да вясковых дзевак ды самагону - але няхай моладзь ведае: калі змагаесься пад правільным сьцягам - усё табе сыйдзе з рук!

Што-ж, цяпер у кожнай школе дастаткова і рэлігіі, і маралі, і этыкі. І вынікі адразу відаць: падчас кожнай школьнай дыскатэкі любяцца бліжнія ледзь не пад кожным кустом…

* * *

І з цэнзураю мы разьвіталіся, чытай-пішы што хочаш і як хочаш. Але дэфіцыт літаратуры зьмяніўся дэфіцытам чытачоў: ужо ня трэба ані Салжаніцына, ані Ларысу Геніюш ці Арсеньневу чытаць "пад коўдраю" - і што?

Разьвітаньне з цэнзураю разьвеяла яшчэ адну ілюзію - веру ва ўсемагутнасьць вольнага слова.

Дзе-дзе, а ў нашай маленькай краіне тыя, хто "наверсе", зразумелі - хай сабе пішуць і гавораць, што хочаць і як хочаць, а мы, у свой чарод, будзем рабіць, што падабаецца і як падабаецца. І свабода слова нам, уладзе, ня толькі не перашкодзіць, а нават і дапаможа: заўсёды можна пахваліцца, маўляў, якія мы маем дасягненьні, якія мы вольныя!

Адыйшла ў мінуласьць і цэнзура ў мастацтве. Ніхто ўжо не паверыць, што можна разганяць выставы "ідэалягічна няправільнага" мастацтва пры дапамозе бульдозераў, як тое дзеялася калісьці ў Маскве. А колькі было "непрапушчаных" спэктакляў, фільмаў… Затое цяпер - свабода. Можна, напрыклад, прымусіць чэхаўскіх герояў гаварыць маналёгі, павярнуўшыся дупамі да гледача й зьвесіўшы галовы спаміж ног. А потым змусіць іхжа абсыпаць адно аднога мукой, абліваць вадой, - воля! Гэта я пра пастаноўку "Трох сясьцёр" Чэхава рэжысёрам Эймунтасам Някрошусам, каторы ўважаецца славай і гонарам літоўскага тэатру. Крытыкі хорам цьвердзяць - адзін з найвялікшых рэжысёраў сьвету.

І ўсё-ж цэнзура так проста не здаецца, здараюцца рэцыдывы. Нядаўна ў Коўне адбыўся скандал - на выставе аднаго заходняга фотамастака. Выстава, як выстава, такіх цяпер шмат: на вялікіх, мэтры два на два, фотаздымках паказаныя жаночыя й мужчынскія палавыя органы, у стане рабочым і стане спачынку, нейкія дэбілы, якія займаюцца сэксам аральным, анальным ды іншым. І цэнзура не прапусьціла адзін здымак!!! На ім быў паказаны крыж з укрыжаваным Хрыстом, утопленым у "мачу". Называўся "шэдэўр" "Piss Christ".

Вядомаму крытыку Скірмантасу Валюлісу выстава спадабалася. Што-ж, казаў гэты інтэлектуал, жаночы палавы орган вельмі своеасаблівы, варты павагі й паказу, - да таго-ж у кожнае кабеты ён непаўторны. Шкада толькі, што не дарасьлі мы яшчэ да свабоды, не дасьпелі... Што да мяне, дык я пасьля прагляду тэлерэпартажу пра выставу адчуваў сябе як той маладыя гінеколяг, каторы выйшаў пасьля першага працоўнага дня на вуліцу, азірнуўся й падумаў: як добра, што ў жанчынаў ёсьць яшчэ й твары!

Зрэшты, можа гэтую выставу прывязуць у Вільню. І тады пра яе напіша Адам Глёбус у "Нашай Ніве". Ён даўно ўжо "дасьпеў" да падобнага мастацтва.

* * *

Калі вы жывяце на апошнім паверсе панэльнага дому й пасьля кожнага дажджу ў вас мокрая столь - узгадайце "добрым, ціхім словам" ня толькі камунальнікаў, што абы-як рамантуюць дах. Пляскаты дах, а, дакладней, ягоная адсутнасьць - адзін з пладоў архітэктурнай рэвалюцыі, што зьдзейсьнілі "Баўхаўс" у Нямеччыне, Ле Карбюзье ў Францыі ды іхныя аднадумцы ва ўсім сьвеце. Савецкія архітэктары, кіруючыся "мудрымі ўказаньнямі" тав. Сталіна, не дапускалі гэтае заразы. Аднак калі правадыр перабраўся ў маўзалей з пляскатым дахам, "дахі паехалі" й на абшарах СССР.

На ўзьбярэжнай ракі Вяльлі (Нярыс) у Вільні ёсьць нехлямяжная спаруда, што нагадвае скрынку з вокнамі - Інстытут праектаваньня. Ніхто гэтым будынкам не цікавіцца, каля яго не фатаграфуюцца турысты. А між тым ягоныя аўтары атрымалі ў 1969 г. узнагароду на ўсесаюзным конкурсе, як за найлепшы праект. Ня водзяць турыстаў і Лазьдзінай (гарадзкі мікрараён), аўтары забудовы якога атрымалі ў свойчас найпрэстыжнейшую Ленінскую прэмію!

Коратка можна падсумаваць так - архітэктура XX ст. страціла чалавечае вымярэньне. Назавіце хоць адзін горад, у каторым чалавек адчуваў-бы сябе ўтульней у новых раёнах, а не ў старой частцы.

І вось - навіна: дахі вяртаюцца! Усё больш складанымі робяцца праекты, ніхто ўжо не будуе панурых скрынак. І, бадай, ужо ня знойдзецца архітэктара, які прапанаваў-бы зьнесьці палову старога Парыжу, як той самы Карбюзье, або дадумаўся-б праламіць шырокі прашпэкт праз Стары Горад у Вільні (была й такая ідэя)… Толькі вось колькі страчана - беспаваротна… Але разьвітацца з "чамаданнай" архітэктурай, ці, як самі архітэктары кажуць, стылем "БарАкко", - надзвычай прыемна.

* * *

Размову на гэтую тэму - разьвітаньня са старым ды сустрэчу з новым - можна доўжыць і доўжыць. Але, можа, чытачы падхапілі-б дыскусію "Чаго шкода й чаго ня шкода ў XX стагодзьдзі?"

Алег Аблажэй

## Вось ён які — беларус XXI стагодзьдзя!



Нарыхтоўка дроў у Чуранцах. *Здымак Мікуся*

## Шаноўныя чытачы!

*Шмат у каго з вас ужо скончылася падпіска на нашую газэту, некаторыя й зусім не падпісаліся. Нашым чытачам зь Беларусі й краінаў СНД, каторыя з прычыны цяжкога матар'яльнага існаваньня ня маюць сродкаў на падпіску, мы й надалей будзем высылаць газэту бясплатна. (Адна толькі просьба, каб вы часьцей пісалі нам, ці хаця-б паведамілі, ці даходзіць да вас газэта). А вось да астатніх нашых падпішчыкаў вялікая просьба: падпішыцеся! Падтрымайце адзіную беларускую газэту ў нашай старажытнай сталіцы Вільні! Умовы падпіскі ранейшыя:*

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны* чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

*Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no. 10 000 196 490*

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** й **краінах СНД** паведамляем адрас для перасылкі грошаў у Менску: *Кірыл Ігнацік, Сьвердлава 22-41, 220050 Менск.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях эквівалентная **$ 3**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас : *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «a», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$ 8**.

*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021 Lithuania***
*e-mail:* ***editor@runbel.lt***

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | |
|---|---|
| **Б. Стус** з Амэрыкі | **$ 50** |
| **К. Акула** з Канады | **$ 30** |
| **Я. Ярмалковіч** з Польшчы | **$ 11** |
| **Б. Клінцэвіч** з Польшчы | **$ 4** |
| **І. Вараўка** з Польшчы | **$ 8** |
| **Ю. Касьцюкевіч** з Амэрыкі | **$ 30** |
| **М. Русак** зь Літвы | **60 Lt** |
| **Н. Рандаў** зь Нямеччыны | **$ 20** |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўца
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў *«Дэмакратыя для Беларусі»***
адрас рэдакцыі
Taikos, 50-29, 2017 Vilnius, Lithuania
тэлефон, факс: *(+ 370 2) 42 38 02*
http://www.runbel.lt
*e-mail:* editor@runbel.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
друк UAB Adomo Jakšto spaustuve
наклад 1000
*ISNN* **1392-7671**